PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 35 (1894) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 30 ЖНІЎНЯ 1992 г. ЦАНА 2000 зл.



*Ноч на Святой Гары, нягледзячы на тое, ці хтось правёў яе ў малітвах, ці на размовах з сябрамі, пакідае ўражанне ўдзельніцтва ў нечым незвычайным. Праўдападобна гэтае якраз адчуванне прымушае людзей вяртацца сюды кожны наступны год.*

**Рэпартаж Яўгена Мірановіча „Пілігрымы і гандляры"**
**чытайце на стар. 7.**

## АДПАЧЫЦЬ У ДУБІЧАХ-ЦАРКОЎНЫХ



*Вадасховішча Бахматы ў халодны дзень.* **Фота М. Ваўранюка.**

Лета ў гэтым годзе было сапраўднае - сонечнае, гарачае /можа нават занадта/. Наўрад ці гэта цешыла гаспадароў або пажарнікаў, але аматараў адпачынку ля вады - напэўна.

Каля Дубіч-Царкоўных ёсць штучнае вадасховішча Бахматы. Збудавалі яго 6 гадоў таму назад на рачулцы Арлянцы. Яго даўжыня - 800 метраў, шырыня - 80, максімальная глыбіня - 4 метры, але ў сярэднім каля двух. «Вадасховішча невялікае, але сімпатычнае», - кажа Яланта Соха, дырэктар Гміннага асяродка культуры. Пад яе распараджэннем таксама Бахматы. «У мінулым годзе каля вады паставілі мы домік на 7 месцаў, цяпер будуем другі, на 25 месцаў. Увесь час нехта ёсць на палатачным полі. У суботы і нядзелі прадаюцца гарачыя каўбаскі, напіткі, марожанае. Маем розныя лодкі, якія можна пазычыць за невялікую аплату. Можна таксама вудзіць рыбу. У вадасховішчы водзіцца карп, амур, лінь».

„За сезон мы, як гміна, - кажа войт Анатоль Паўлоўскі, - маем ад вадасховішча 40 мільёнаў прыбытку. Сезон тут пачынаецца ў першыя дні чэрвеня, а канчаецца ў пачатку верасня. Вадасховішча стваралася дзеля трох

*Працяг на стар. 8*

## МЫ ПРЫСУДЖАНЫЯ НА СУПРАЦОЎНІЦТВА

Інтэрв'ю з **ТАМАШОМ ШЧАПАНСКІМ,** старшынёй Таварыства **«ПАМОСТ».**

*–Скажыце, калі ласка, чым займаецца ваша Таварыства? Якія мэты яго дзейнасці?*

–Гаворачы найкарацей, Таварыства займаецца папулярызацыяй ведаў пра нацыянальныя пытанні ў Цэнтральна-ўсходняй Еўропе, пра адносіны паміж Польшчай і яе суседзямі ў гэтай частцы Еўропы, а таксама прапагандаваннем паставы талерантнасці ў адносінах паміж народамі. Зразумела, прызнаем адрозненні паміж народамі, якія вынікаюць з адметнасцяў у складзе думкі, у рэлігіі, ці ў культуры, але на наш погляд не павінны яны нас дзяліць, не павінны быць крыніцай узаемных канфліктаў. Мы хочам прапагандаваць такую паставу, якая дазваляла б розніцца між сабою культурным спосабам. Гэта наконт ідэі.

Практычна - гэта асветніцкая арганізацыя. Перш за ўсё ладзім сустрэчы, якія маюць характар дакладаў ці дыскусіяў. Гэта сустрэчы з навукоўцамі, якія займаюцца такімі праблемамі, а таксама сустрэчы з грамадскімі дзеячамі, у тым ліку з дзеячамі з асяроддзяў нацыянальных меншасцяў.

Як нефармальная група, мы ўзніклі ў 1986 годзе, а як афіцыйна зарэгістраваная арганізацыя, Таварыства «Памост» існуе ад снежня 1988 г. Наша Таварыства ствараe перш за ўсё інтэлігенцыя ў некалькіх гарадах. Аддзелы існуюць у Варшаве, Лодзі, Беластоку, Белай-Падляшскай. Наша Таварыства вылучаецца тым, што ў яго працах прымаюць удзел таксама прадстаўнікі нацыянальных меншасцяў, якія пражываюць у Польшчы.

*–Якія сустрэчы, мерапрыемствы арганізаваліся Таварыствам «Памост» у справе беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы?*

–У лістападзе мінулага года мы правялі сустрэчу з доктарам А. Баршчэўскім, кіраўніком Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта і адначасова старшынёй БГКТ, і з Міраславам Чэхам, ук-

*Працяг на стар. 5*

## НА МЯЖЫ

Частка VIII

Размовы з сялянамі на тэму адраджэння капіталізму ў Польшчы весці цяжка. Размоўцы прыводзяць розныя, так сказаць, рацыянальныя факты, з якімі нялёгка змагацца. Зрэшты я і не змагаюся. Дзякаваць Богу, мая прафесія да гэтага мяне не прымушае. Я гавару толькі аб гістарычных неабходнасцях і не займаюся прапагандай у карысць такой ці іншай сістэмы. Дарэчы, адзін з сялян прыпомніў мае выказванні з сямідзесятых гадоў і рэзка асудзіў іх. Вось словы гэтага сямідзесяцігадовага чалавека:

„ Ты помніш як ты, калі настаў Герэк, гаварыў нам, што ў Польшчы мусят быць апазіцыйны партыі, каторы будут глядзець на рукі той партыі, што трымае ў сваіх руках уласць. І ты ешчэ даказваў, што Польшчы патрэбна малое безрабоце, каб людзі пачалі шанаваці працу і каб працавалі больш выдайно. Ну то сегодне маем і апазіцыйны партыі і безрабоце і што з таго вышло? Як мы жывем - лепш чы горш, чым жылі? То ж і дурневі вядомо, што жывецца з каждым роком горш а не лепш. От яшчэ увядут адплату за науку і лечэнне, і мужыкам будзе капут. Ужэ больш мужыцкі дзеці не будут канчаць Акадэміяў і не будут лечыцца ў шпіталях. Скончылася бабцы сранне.

А ты не чуў, што сказалі ў целевізары, ну той Бабёр, чы як яго там, у „Лістах аб гаспадарцы"? Сказаў, што адкрылі 1600 афёр і ні аднаго не правелі суда. От табе і капіталізм, от табе і справедлівасць! Гэто толькі, брацішку, початок. Паглядзіш, што будзе за рок. Ведай, што будзе велікі неўражай і можэ збракнуць хлеба. Ты бачыў землі кала Таніцы, кала Багнюкоў, кала Рудні? Ну ўсе тые, што абраблялі пэгээры і кулка ральнічы? Абраблялі лет дваццаць, калі не больш. І штось там расло, а то овес, а то жыто, а то лубін. І карысць была для панства і для людзей. Ну то ідзі і цяпер глянь. Не загаралі нават крайца. Усё аблагом лежыт. Трава да кален і кветачкі цвітут. От табе і капіталізм. Знай, што ў хуткім часе за булку хлеба будзеш плаціць у Варшаві ні дзве тысячы але дзесяць тысяч, і што Польшча будзе не прадаваць збожэ, але купляць за граніцаю, каб людзі без хлеба не дохлі. А калі ні будзе хлеба, то ні будзе і мяса, бо збожэ гэто корм для жывіны. От табе і маем „drogę do normalności". Ад гэтай нармальнасці людзі дохнуць будут. Ты помніш даваенны час? Гаўно ты помніш! Яшчэ тады засранцом быў. А я помню. Я быў дужманым хлопцом і хлебнуў разом з бацьком капіталізму. На заробкі да пана ў Гараймово хадзілі або на будову шасы за Жэдню. Бацько зарабляў да двух злотых а я, маладзенькі значыцца, залатоўку ў дзень. На паўкілаграма цукру. Падумай, цэлы дзень валачыць камене за паўкілаграма цукру! От табе і капіталізм. Падумай, тады гавары!"

## БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

Што там гаварыць, у гэтых горкіх словах многа праўды. Аднак сталася, як сталася. Былая сістэма ліквідавалася і людзі мусяць прывыкаць жыць у новай.

Трэба памятаць яшчэ аб адным. Ніякая грамадская сістэма не існуе па-за людзьмі. І якраз людзі акрэсліваюць яе істоту, яе чалавечы або нялюдскі чалавечы характар. Розныя былі феадалізмы, розныя сацыялізмы і розныя капіталізмы. Калі беларусы не схочуць уключыцца ў тую грамадска-палітычную сістэму, якая ўзнікае, дык атрымаюць ад чужых, мабыць, найгоршы варыянт сістэмы і ўлады. І таму не трэба абражацца на перамены, толькі актыўна прыняць у іх удзел. Гэта актыўнасць, прынамсі ў нейкай меры, можа прычыніцца да таго, што капіталізм будзе лепшы, чым быў бы без нашага ўдзелу ў ім.

АЛЕСЬ БАРСКІ

## З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

**Праз краіну праходзіць хваля забастовак.** Калектыў горна-металургічнага камбіната «Польская медзь» адобрыў пратакол пагаднення з дырэкцыяй і пачаў падрыхтоўку да ўзнаўлення прадукцыі. Аднак забастовачны камітэт заявіў, што страйк толькі спынены да часу падпісання дэталёвага пратакола наконт заработнай платы. Закончыўся страйк у шахце «Пяст» у выніку дасягнення паразумення з дырэкцыяй. Далей не працавалі шахты «Розбарк», «Шамберкі», «Хвалавіцэ» і «Яніна». Працягвалася забастоўка ў Гданьскай суднаверфі. Група з сарака чалавек акупавала раён брамы н-р 2 і сталовую, 9 рабочых аб'явілі галадоўку. Астатнія - 9 тысяч рабочых - працавалі. Застрайкавалі таксама машыністы Шлёнскай чыгуначнай акругі.

**Прэм'ер-міністр Ганна Сухоцкая,** каментуючы актуальную забастовачную сітуацыю, сказала, што не бачыць небяспекі анархізацыі і дэстабілізацыі жыцця ў краіне. «Урад будзе рашучым - інакш не ўяўляю сабе кіравання дзяржавай» - сказала спадарыня прэм'ер.

**У спісак агульнапольскіх прафсаюзаў уведзены прафсаюз «Контра».** Пабудаваны ён паводле тэрытарыяльна-прафесійнага прынцыпу і гуртуе працаўнікоў усіх прафесій, а таксама членаў іншых прафсаюзаў і беспрацоўных. Сядзіба краёвых улад «Контры» знаходзіцца ў Катавіцах.

**Міністр працы і сацыяльнай палітыкі Яцэк Курань** адмяніў закон, які ад 1 чэрвеня г.г. абмяжоўваў права на сямейны дадатак на дзяцей. Новая пастанова ўваходзіць у сілу 1 верасня і дзеці, якім вернецца права на дадатак, атрымаюць кампенсацыю за гэтыя тры месяцы. Адменены закон пазбаўляў права на дадатак тыя дзеці і аднаго з бацькоў, якіх даход перавышаў палову самай нізкай пенсіі плюс дадатак /592 тыс. зл./. Паводле новай пастановы права на дадатак страчваецца тады, калі даходы ёсць роўныя або перавышаюць 100 прац. самай нізкай пенсіі плюс дадатак /849 тыс. зл. плюс 167 тыс. зл./.

**У 49 гадавіну выбуху паўстання ў беластоцкім гета** ўлады і жыхары Беластока ўзлажылі кветкі ля помніка яго героям на даўніх яўрэйскіх могілках. У гэтым месцы спачывае прах 3,5 тысячы яўрэяў, замучаных гітлераўцамі і загінуўшых у час паўстання.

**У 50 школах Апольскага ваяводства** /на 625 усіх школ/ бацькі запатрабавалі ўвесці навучанне нямецкай мовы як роднай. У некаторых школах выказалася за гэтым 97-98 працэнтаў бацькоў.

**Люблінскі аўтарамонтны завод** падпісаў кантракт на рамонт аўтобусаў «Ікарус» з Беларусі вартасцю ў 3,5 млн. долараў. Беларускі бок заплаціць за паслугу пастаўкамі калійнай солі. У Любліне будзе адрамантавана 400 аўтобусаў, у тым ліку 100 яшчэ ў гэтым годзе. Узамен да канца снежня завод атрымае 40 тысяч тон калійнай солі.

**Савецкія рублі заваёўваюць амерыканскі рынак.** Продажам валюты з сімваламі «імперыі зла» занялася ў Нью-Йорку кампанія «International Coins». Усе зацікаўленыя сувенірамі з неіснуючага ўжо Савецкага Саюза могуць заказваць рублі па тэлефоне. Аднарублёвая купюра каштуе ўсяго сем долараў - разам з высылкай на адрас заказчыка.

**У польскіх турмах і арыштах прабывае 386 чужынцаў з 33 краін.** Кожны трэці з іх з'яўляецца грамадзянінам краін СНД.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

* Фэстын у Кляшчэлях.
* З Беластока ў Супрасльскую лаўру.
* Аб мове мастацкіх твораў.
* Перад новым навучальным годам.
* Новая рубрыка „Мы прачыталі".

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### ПАДРАБЛЯЮЦЬ ВАЛЮТУ

У міліцыю Менска звярнуўся «пацярпелы», які ад невядомай купіў на праспекце Ф. Скарыны 6 купюраў па 200 нямецкіх марак кожная за 120 тысяч савецкіх рублёў. Усе купюры аказаліся падробленымі.

Такія аферы так моцна пашырыліся, што газета «Звязда» змясціла вялікі артыкул двух супрацоўнікаў крымінальнага вышуку, дзе падрабязна апісаны выгляд марак ФРГ і долараў ЗША, паказаныя на фотакартках месцы абарончых знакаў, растлумачаны спосабы элементарнай праверкі.

Нумар «Звязды» з гэтым артыкулам разыйшоўся імгненна.

### ТАЛЕР ІДЗЕ?

Прызначаны нядаўна кіраўніком МВФ і Еўрапейскага банку развіцця і рэканструкцыі ад Беларусі Станіслаў Багданкевіч выступіў з наступнай заявай:

- Беларусь падрыхтаваная да супрацоўніцтва з Расеяй у галіне крэдытна-валютнай палітыкі, у тым ліку да пераходу на агульны валютны курс. Але калі інтарэсы дзяржавы будуць цярпець ад агульнай з Расеяй валюты, рэспубліка можа на працягу пяці дзён перайсці на свае нацыянальныя грошы.

Раней паведамлялася, што МВФ патрабаваў ад Беларусі ды Украіны застацца ў «рублёвай зоне» Расеі.

### КРЭДЫТЫ ДЛЯ БЕЛАРУСІ

З дзяржаў былога СССР Рэспубліка Беларусь другой пасля Расеі была прынята ў МВФ. Ужо ў верасні Беларусь павінна атрымаць крэдыт на 180 млн. долараў. Частка гэтай сумы пойдзе на закуп стратэгічна важнай сыравіны, а блізка 100 млн. - на «структурныя змены ў эканоміцы». Станіслаў Шушкевіч у апошнім інтэрв'ю заявіў, што Рэспубліка Беларусь далей не можа браць крэдытаў, каб не апынуцца ў залежнасці ад заходніх банкаў. У такіх умовах урад мае намер заахвочваць прамыя інвестыцыі ў беларускую гаспадарку. Шэраг прадпрыемстваў ужо заключылі кантракты з фірмамі Францыі, Германіі, Італіі.

### ШТО З БЕЛАРУСКІМ ФЛОТАМ?

На апошняй нарадзе кіраўнікоў краінаў СНД абмяркоўвалася пытанне пра падзел рыбацкага і гандлёвага савецкага флоту, але пра якія-небудзь вынікі нічога невядома.

Станіслаў Шушкевіч заявіў, што на Расею ён не спадзяецца. Па-першае, расейцы традыцыйна дзеляць па прынцыпу «гэта - маё, а гэта - таксама маё». Па-другое, савецкі флот у большасці збудаваны ў 60-я, а нават 50-я гады, і таму нават пры яго падзеле ўсе дзяржавы па-за Расеяй атрымаюць металалом.

«Флот будзем будаваць самі», - сказаў Шушкевіч. Найбольш перспектыўным ён лічыць буйны шматгадовы заказ на польскіх сточнях.

### МЕНСК НА МЕСЦЫ МАСКВЫ

Сістэма трансляцыі тэлевізійных праграмаў на Беларусі мела дагэтуль каланіяльны характар - найбольш пашыраныя былі два маскоўскія каналы, калі Менск «не пакрываў» нават усяе тэрыторыі Беларусі.

З 1 жніўня парадк трансляцыяў змяніўся. Найбольш пашыраны будзе менскі канал. Паводле асобных выказванняў кіраўнікоў нацыянальнага тэлебачання з новага году магчымая замена аднаго з маскоўскіх каналаў на «другі беларускі».

«Другі беларускі» будзе рэтрансляваць навіны Сі-Эн-Эн, а таксама дэманстраваць кінафільмы і спартыўныя спаборніцтвы.

Толькі ці будзе?

АЛЕСЬ ЧОБАТ

МІКОЛУ ГАЙДУКУ – 35 – З ДНЯ ДЭБЮТУ

# „НЕ ЦАЛУЙ ТАК ПАЛКА І ХЦІВА...”

18 жніўня ў рэдакцыі нашага тыднёвіка прайшла маленькая ўрачыстасць. 35-годдзе паэтычнага дэбюту святкаваў колішні рэдактар і да сёння верны карэспандэнт «Нівы» Мікалай Гайдук. На святкаванні прысутнічалі розныя пакаленні журналістаў - пачынальнікі і сучаснікі.

На пачатку Віталь Луба зачытаў два дэбютанцкія вершы юбіляра. Пачыналіся яны так: «Мне твае палкія вусны...» і «Не цалуй так палка і хціва...». Мікалай Гайдук, слухаючы першыя творы, рабіўся то чырвоны, то белы наперамен - успомнілася яму, як Пятрусь Броўка ацаніў гэтыя вершы. Віталь Луба ўручыў юбіляру віншавальны ліст ад рэдакцыйнага калектыву «Нівы».

З віншаваннем дастойнаму юбіляру выступілі Валянціна Казімерчык /Аддзел грамадскіх спраў Ваяводскай управы ў Беластоку/ - яна ад празмернага хвалявання гаварыла па-польску - і Віктар Швед /намеснік старшыні Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа»/. Валянціна Казімерчык уручыла юбіляру ліст ад беластоцкага ваяводы, а Віктар Швед, сваім звычаем, прыгадаў сабраным біяграфію «віноўніка».

Не лічыўшы падручнікаў па беларускай мове і граматыцы беларускай мовы для V-VIII класаў, паказаліся друкам наступныя кнігі Мікалая Гайдука: «Аб чым шуміць Белавежская пушча» /выданне ГП БГКТ, Беласток 1982/, «Ціш» /лацінкаю, Ваяводскі дом культуры, Беласток 1988/, «Białowieskie opowieści» /Krajowa Agencja Wydawnicza, Białystok 1990/, «Грызна» /«Мастацкая літаратура», Мінск 1991/.

У неафіцыйнай частцы святкавання Мікалай Гайдук багата расказваў пра свой журналісцкі досвед - вясёлыя і сумныя выпадкі, калі збіраў ён краязнаўча-фальклорны матэрыял /агулам паказалася друкам звыш паўтысячы народных песень/. Спадар Гайдук заахвочваў маладых журналістаў «Нівы» працягваць зборку матэрыялаў у краязнаўчы слоўнік - ягоная праца над слоўнікам абарвалася на літары «г».

У мінулым Мікалай Гайдук працаваў журналістам і намеснікам галоўнага рэдактара «Нівы», а яшчэ раней быў дырэктарам беларускага ліцэя ў Бельску-Падляшскім. Сёння спадар Гайдук - актыўны ўдзельнік праваслаўнага жыцця на Беласточчыне /член кіраўніцтва Праваслаўнага брацтва/. У сувязі з гэтым выказаў ён на сваім юбілеі некаторыя меркаванні пра сітуацыю Праваслаўнай Царквы ў нашай краіне.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**
Фота аўтара



*Ад імя ваяводы віншуе юбіляра Валянціна Казімерчык.*

# ФРАНУК ГРЫШКЕВІЧ НЕЗАБЫТЫ

З цікавасцю прачытаў я публікацыю Сяргея Чыгрына «У мяне Беларусь ёсць адна» пра Францка Грышкевіча разам з падборкай яго вершаў. На маю думку, гэта найвыдатнейшы беларускі паэт міжваеннага перыяду родам з Беласточчыны, канкрэтна - з былога /у 1775-1950 гадах/ мястэчка Сухаволя, якое, дарэчы, з'яўляецца геаметрычным цэнтрам Еўропы /каля 20 км на паўднёвы захад ад Дубровы-Беластоцкай/.

Публікацыя цікавая тым, што акрамя агульных звестак пра беларускага паэта, перакладчыка, аратара і публіцыста, знаёміць нас таксама з асобай Віктара Казлоўскага - настаўніка-пенсіянера, выпускніка Віленскай беларускай настаўніцкай семінарыі, які асабіста ведаў Франука Грышкевіча ды на ўсё жыццё захаваў у сваёй памяці яго вобраз, а таксама тым, што бадай, упершыню ў пасляваенны перыяд разам з ёю ў 31 /1890/ нумары «Нівы» ад 2 жніўня г.г. быў змешчаны здымак паэта, якога мне не ўдалося адшукаць.

Трэба сказаць, што імя Франука Грышкевіча, дзякуючы прафесару Уладзіміру Калесніку з Бярэсця, ніколі не было выкрэслена са старонак гісторыі беларускай літаратуры, нават і ранейшай, хоць успаміналася пра яго заўсёды адным сказам. У выдадзенай у Мінску ў 1964 г. «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры» /т. I, стар. 86/ беларускі вучоны і пісьменнік пісаў: «Галоўнай фігурай сярод нацыянал-рамантыкаў быў Казімір Сваяк. На яго арыентаваліся А. Бартуль, Ф. Грышкевіч і некаторыя іншыя». У «Истории белорусской советской литературы», якая выйшла на рускай мове ў 1977 г. гэтаксама ў Мінску, сказана: «Дань эстетским вывертам отдавали начинающие авторы из студенческой молодежи /Е. Бартуль, Ф. Гришкевич и др./». І гэта амаль што ўсё. Тое ж самае сустракаем і ў нядаўна выдадзенай салідная заходнебеларускай анталогіі «Ростані волі. З заходнебеларускай паэзіі» /Мінск, 1990/, падрыхтаванай якраз праф. Уладзімірам Калеснікам, у ягонай прадмове /стар. 37/. У анталогіі няма ніводнага твора нашага Франука Грышкевіча, хоць у 1927 г. у Вільні выйшла ягоная паэтычная кніжка «Веснавыя мелодыі».

Постаць Франука Грышкевіча стала мне больш вядомай некалькі гадоў таму, калі корпаўся я ў мінскіх бібліятэках і калі прывёз адтуль ксеракопію ўспомненай ягонай кніжкі. Спачатку няшмат ведаў пра ягоную біяграфію, таму, нават і пазней, калі былі ў мяне некаторыя матэрыялы пра яго, хоць прымерваўся, але не рашыўся дагэтуль напісаць пра яго артыкул, лічачы, што можа ў будучыні буду мець іх пра яго больш.

Карыстаючыся, аднак, нагодай публікацыі Сяргея Чыгрына пра паэта, думаю, што чытачам цікава будзе даведацца аб усім тым пра свайго земляка, што ўжо ў мяне, хоць і няшмат, але ёсць. А ёсць у мяне перш за ўсё ўспаміны пра Франука Грышкевіча Мар'яна Пецюкевіча, якія захоўваюцца ў машынапіснай кніжцы нашай славутай зямлячкі Зоські Верас «Біяграфіі» ў Аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Беларусі, азагалоўленыя «Апошні дырэктар Віленскай беларускай гімназіі» /стар. 47-49/. А вось і вытрымкі з гэтых успамінаў, якія перапісаў я некалькі гадоў таму назад і захоўваю сярод іншых сваіх матэрыялаў:

«У старшай ад нашай клясы на адну ступень было шмат моладзі вельмі здольнай і таленавітай. Паміж ёю вызначаўся Франук Грышкевіч з паэтычнымі і аратарскімі здольнасцямі. Быў ён круглым сіратой, родам з мястэчка Сухаволі Сакольскага павету, Гродзенскай губерні /цяпер Беласточчына/. Жыў у Беларускім інтэрнаце пры Віленскай гімназіі. Скончыўшы Віленскую беларускую гімназію, нелегальна перайшоў польска-чэскую граніцу і ў Празе, у Карлавым універсітэце скончыў літаратурны факультэт са ступеняй доктара філязофіі. Вярнуўшыся ў Вільню, быў беспрацоўным інтэлігентам. У такім становішчы застала яго II-я сусветная вайна. Да выезду ў Чэхаславакію Франук Грышкевіч быў пад уплывам беларускага каталіцкага клерыкальнага асяроддзя. Аднак з Прагі ён вярнуўся моцна радыкальным, а нават называлі яго камуністам. Калі фармальна і не належаў да КПЗБ, то ідэалягічна быў зусім зблiжаны. Аб гэтым сведчыць яго дзейнасць у Вільні, ягоная паэзыя і журналістыка. Па вызваленні Заходняй Беларусі ад Польшчы Франук Грышкевіч стаў блізкім супрацоўнікам, „правай рукой" камісара Клімава ў Вільні. Калі гітлераўцы напалі на Савецкі Саюз, Грышкевіч астаўся ў Вільні. Акупацыйныя ўлады дазволілі на функцыянаванне Віленскай беларускай гімназыі, якой дырэктарам назначылі Франука Грышкевіча. Настаўнікамі гімназіі асталіся амаль усе тыя, якія працавалі раней. Франук Грышкевіч ажаніўся з дачкой М. Кэпэля, даўгалетняга старшыні Бацькаўскага камітэту гімназыі, якая таксама скончыла Віленскую беларускую гімназыю. Якога злачынства дапусціўся Франук Грышкевіч у часы свайго дырэктарства ў Гімназыі - невядома. Відаць, нейкі праступак, а хутчэй, фальшывы данос былі прычынай, што зараз пасля вызвалення Вільні ад акупантаў савецкія органы бяспекі яго арыштавалі. Следства праводзілі ў Менску. Былі чуткі, што ў часе следства ён выскачыў праз вакно на вуліцу і забіўся...»

З гэтага ж машынапісу Зоські Верас даведваемся таксама, што Франук Грышкевіч нарадзіўся ў 1904 або 1906 г., што ў Вільні засталіся ягоная жонка і сын. Але, на жаль, „маці выхавала сына ў духу расейскім і мовы Бацькі не навучыла... Хаця яе бацька быў свядомым і дзейным беларусам, маці паходзіла з сям'і віленскіх „рускіх" мяшчанаў - Гур'янавых". Жонка Франука Грышкевіча прыблізна ў 1975 г. таксама скончыла самагубствам.

Далей Мар'ян Пецюкевіч успамінае яшчэ, што: «Франук Грышкевіч ужо вучнем Віленскай беларускай гімназыі паказваў сябе здольным паэтам, публіцыстам, аратарам. Адно з яго выступленняў /экспромт/ засталося мне ў памяці. Была гэта надмагільная развітальная прамова падчас пахавальнай цырымоніі беларускага паэта Казіміра Сваяка - Канстантага Стэповіча ў 1926 г. на могілках Роса. Гэта была цудоўная імправізацыя, кранаючая сэрца кожнага ўдзельніка пахавін...»

У гэтай жа «Біяграфіі» ёсць яшчэ і дадатковыя звесткі пра Франука Грышкевіча з ліста Мар'яна Пецюкевіча, які жыў у Польшчы, да Зоські Верас, датаванага 31.I.1977 г.:

«Калі Франук Грышкевіч вярнуўся з Чэхаславакіі, ён быў пакліканы ў войска. Служыў у 6-ым палку Легіёнаў у казармах за касцёлам св. Пётры і Паўлы на Антокалі /у Вільні, - **Ю. Т.**/. Адбыўшы рэкруцкі курс /3 месяцы/, працаваў у ротнай канцылярыі пісарам».

І гэта амаль усё, што ведаю я дагэтуль пра паэта з Сухаволі Франука Грышкевіча. Акрамя гэтага маю ягоны зборнік паэзіі «Веснавыя мелодыі» /Вільня, 1927/ ды шмат ягоных публікацый у тадышнім заходнебеларускім друку ды, відаць, амаль усе, калі не ўсе, звесткі пра тое, што, дзе і калі ён ды ў чым надрукаваў, што фактычна дае падставу, каб, - як піша Сяргей Чыгрын, - сабраць «яго спадчыну пад адну вокладку». Перш чым, аднак, да гэтага дойдзе, прапаную, каб Сяргей Чыгрын зрабіў у «Ніву» вялікае інтэрв'ю пра пісьменніка з Віктарам Казлоўскім, а Віктара Піліпавіча Казлоўскага заахвочваю, каб напісаў ён /таксама можна апублікаваць у «Ніве»/ як мага найшырэйшыя ўспаміны пра земляка з Сухаволі. Несумненна, выклічуць яны вялікую цікавасць да найвыдатнейшага беларускага паэта з Беласточчыны міжваеннага перыяду.

**ЮРЫ ТРАЧУК**

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК


AKSAMITAU A.:Ab adnym mikrapoli frazealahičnych adzinak belaruskaj movy u paraŭnanni z adpavednymi pol'skimi i ruskimi. - **Slavia Orientalis 1990 nr 3/4 s. 253-259.**

BIAŁOKOZOWICZ B.: Mikołaj Jańczuk i pogranicze polsko-wschodniosłowiańskie. - **Slavia Orientalis 1990 nr 3/4 s. 445-455.**

BODAK B.: Wspomnienia z ziemi nowogródzkiej. Cz. 1-2. - **Pracownia 1990 nr 2 s. 5-25, nr 3 s. 21-41.**

BUDZISZEWSKI W.: «Zielnik litewski» M. Fedorowskiego a jego «Lud białoruski». - **Slavia Orientalis 1990 nr 3/4 s. 273-278, il.**

CZARNIAUSKI U.: List w obronie białorusinów katolików. - **Więź 1991 nr 2 s. 39-42.**

Dyjalektny słoŭnik Brestčyny. Minsk 1989; Rec. CETRA P., **Slavia Orientalis 1990 nr 3/4 s. 459-461.**

Gross J.T.: The revolution from abroad. The Soviet conquest of Poland's Western Ukraine and Western **Belorussia. Princetown 1988; Rec.** WASZCZYŃSKI J., Biuletyn Głównej **Komisji Badania Zbrodni 1991 t. 33 s. 258-261.**

Inostrannaja VOJENNAJA INTERVENCJA V BELORUSSII 1917-1920. Minsk 1990; Rec. RAWSKI T., **Wojskowy Przegląd Historyczny 1991 nr 2. 223-228.**

JASIŃSKA T.: Nieznane białoruskie teksty prawnicze z I połowy XVII wieku. - **Slavia Orientalis 1990 nr 3/4 s. 323-329, rys.**

KALENDARIUM białoruskie. - **Więź 1991 nr 2 s. 12-21.**

KONDRATIUK M.: Warianty nazw miejscowych w zbiorze pieśni ludowych Michała Federowskiego. - **Slavia Orientalis 1990 nr 3/4 s. 331-338.**

LESZCZYŃSKI G.: Białoruś. /Rynek książki dla dzieci i młodzieży/. - **Guliwer 1991 nr 1 s. 53-55.**

LINGVOGEOGRAFIČESKIJ dannye belorusskich govorov o balto-slovianskich jazykovych kontaktach. Oprac. E. Grinaveckiene /i in./.– **Acta Baltico-Slavica 1989 t. 20 s. 323-332, rys. Zsfg.**

MACKEVIČ J.: Z leksiki vioski Astaškovičy Svetlahorskaha rajona Homel'skaj voblasci. - **Slavia Orientalis 1990 nr 3/4 s. 351-358.**

Mal'dzis A.: Francysk Skaryna jak prychil'nik zbližennja i ŭzajemarazumennja ljudzej i narodau. Minsk 1988; Rec. SIELICKI F., **Slavia Orientalis 1990 nr 3/4 s. 469-470.**

MALAŚ L.: Belaruskija vjaselnyja sirockija pesni. - **Slavia Orientalis 1990 nr 3/4 s. 359-369.**

MATERSKI W.: Walka o Wilno czy symbole? Prastare miasto: polskie, litewskie czy białoruskie. - **Prawo i Życie nr 11 s. 10-11, il.**

OSSOWSKI E.: Podział językowy Polesia na podstawie faktów leksykalnych a podział oparty na faktach fonetycznych. - **Slavia Orientalis 1990 nr 3/4 s. 387-389.**

SENIUCH C.: Bohaterowie i ofiary. /Wojna i okupacja na Białorusi/. **Fortuna 1991 nr 3 s. 21-23, il.**

SENIUCH C.: Białoruś szuka wiary. - **Konfrontacje** 1992 nr 1 s. 19.

STANKEVIČ A.: Semantičeskoe osvoenie polonizmov v belorusskich govorach. - **Slavia Orientalis 1990 nr 3/4 s. 409-414.**

SZCZEPAŃSKI T.: Wydawnictwa białoruskie w Polsce. - **Czasopis 1992 nr 2/3 s. 1, 8.**

WOŁKOW A.: Zrobię wszystko, aby pomóc dzieciom Czarnobyla. /Skażenie Białorusi/. Tł. - **Aura 1991 nr 9 s. 9-10. Sum.**

TRAJKOUSKAJA V.: Simvaličnae vykarystanne tkackaj leksiki ŭ belaruskim vjaselnym falklory. - **Slavia Orientalis 1990 nr 3/4 s. 433-438.**


**P. C.**

# ФОТА–ВІТРЫНА



*Свята беларускай культуры. Беласток – чэрвень 1992 г. Спявае жаночы калектыў з Гарадка.*

**Фота Сяргея Грынявіцкага**

# МІЖ СВЕТЛАЙ ІДЭЯЙ І СУМНАЙ РЭЧАІСНАСЦЮ

Гартаю карткі календара пасля закончанага школьнага года. Столькі было мітусні з рознымі справамі ў гэтым годзе, столькі не выканана з запланаванага. Дарэчы, пра некаторыя справы давялося мне пісаць у «Ніву». Магчыма, што гэта ўжо апошнія мерапрыемствы, якія ладзіліся ў сваім памяшканні, як мы кажам, у сябе. Цяпер і магчымасцяў такіх няма, бо як паклікаць людзей у цесныя два пакойчыкі. Ахвота да працы прападае, калі няма ніякай падтрымкі і мецэната. Дзеля чаго гэтае ўсё рабіць? Каб хто-небудзь абазваў цябе нацыяналістам або глядзеў з зайздрасцю, што ты яшчэ нешта можаш з сябе даць, не разлічваючы на ніякі прыбытак? Памятаю, яшчэ 2-3 гады таму ГП БГКТ з Беластока неяк падтрымоўвала нас. Цяпер яно не толькі што занялося сваркамі між сабою, але на дадатак некаторыя беларускія дзеячы дайшлі да вываду, што трэба «знішчыць» такія асяродкі, вымаючы тэлефоны, адказваючыся ад памяшканняў і ставячы нас у сітуацыі без выхаду. Ніхто, дарэчы, з беластоцкіх БГКТоўскіх улад не паклапаціўся ў справе нашай сядзібы, хаця такія абяцанні былі. Прышлося нам самім пратоптваць сцежкі да мясцовых улад ці безвынікова шукаць паратунку ў айца Аляксандра з гданьскага прыхода. Аказалася, што багатыя царкоўныя памяшканні прыдаліся нейкай суполцы, якая парафіі плаціць грошы за арэнду. Яны патрэбныя, паколькі парафія мала і ёсць праект пабудовы купалаў на былым евангелічным касцёле і разбудовы наваколля царквы. Абгрунтаваўшы гісторыю Беларусі і праваслаўя над гістарычным атласам, дзе назва «Польшча» паяўляецца на картах зямель Вялікага княства Літоўскага ў XIV стагоддзі, прышлося нам вяртацца дахаты з нашымі надалей неразвязанымі праблемамі. Прышлося далей кланяцца перад уладамі, а яны ж дзве: самаў радавая і дзяржаўная - ваяводская. Хаця падтрымоўваў нас сам віцэ-ваявода Ю. Бажышкоўскі, аказалася, што ў гмінная ўправе ніхто з ягонай падтрымкай не лічыцца. На нашае пісьмо прэзідэнту горада Гданьска Францішку Ямрожу наконт памяшкання і сустрэчы прышлося доўга чакаць адказу. А занеслі мы яго 14 красавіка. Сустрэча так і не адбылася. Прэзідэнт настолькі быў заняты, што мы не змясціліся ў ягоным графіку. Новае памяшканне атрымалі мы ад Аддзела гандлю і паслугаў Гарадской управы. Можам ім карыстацца да 30 жніўня 1992 г. Што будзе далей? Цяжка прадбачыць і не хочацца, дарэчы, думаць. Адно пэўнае: у такіх умовах немагчымай будзе такая дзейнасць, якую мы вялі хаця б у апошнім годзе.

Каб неяк выйсці з цяжкага становішча, гданьскія беларусы на сходзе 23 мая 1992 года пастанавілі ўтварыць новую самастойную арганізацыю. Цяпер чакае яна рэгістрацыі ў Ваяводскім судзе ў Гданьску. Ідэя яе стварэння: аб'яднанне беларусаў незалежна ад веравызнання і самастойнасць у дзейнасці.

27 чэрвеня 1992 года маёмасць з беларускага клуба пры вуліцы Доўгі Тарг 8/10 пераехала часткова на вуліцу Алжбятанскую 10/11. Гэтак закончыўся доўгі этап /ад 1970 года/ беларускай дзейнасці ў самым сэрцы гданьскага Старога Мяста. Што будзе далей? Пакажа час. Ад такіх сумных думак па дарозе з новага на старое месца, на старамейскі брук капалі слёзы з-за нашай беларускай непрадбачлівасці і бездапаможнасці. Украінцы так лёгка не здаюцца.

**ЛЕНА ГЛАГОЎСКАЯ**

# ДАРАВАНАЕ ЖЫЦЦЁ

14 жніўня. Пяцьдзесят гадоў даравага жыцця. Назаўсёды запамяталася мне гэтая пахмурная, імжыстая раніца і гучны голас, уварваўшагася ў наш дом нямецкага паліцая Дубініна, які выкрыкваў маё імя і прозвішча. Я тады спала і маці з плачам разбудзіла мяне, галосячы: «Уставай, дачанька, прышлі па тваю душу. На, адзень лепшую сукенку». Дубінін адпіхнуў маці, не даў ёй развітацца са мною, і павёў мяне ў Дырэкцыйны парк /так тады ён называўся/. Там у адным з памяшканняў немцы сагналі некалькі дзесяткаў жыхароў Белавежы.

Мы ведалі, што з намі, заложнікамі, можа здарыцца. Горка плакаў Аляксандр Валкавыцкі: «...шкада дзяцей, дзяўчаты, нас павесяць або расстраляюць. Гэта ўжо канец нашаму жыццю». Мы ўсе ведалі гэтае і чакалі найгоршага.

І дачакаліся. У памяшканне ўвайшоў нямецкі камісар з аўчаркай. Камісар добра гаварыў па-польску. З ім быў нямецкі следчы Касіхін са спіскам у руках і некалькі паліцаяў. Пачалася пераклічка: Семянюк Ніна, Балоціна Анна, Гвай Вера, Валкавыцкая Анна, Місюля /не памятаю яго імя/, Шпац Зіна /а з ёю двое дзяцей дашкольнага ўзросту/ - перайдзіце на адзін бок. На другім баку асталіся 22 чалавекі, якіх усіх вывелі... Маці Зіны Шпац абняла дзяцей, стала іх цалаваць і плакаць. Паліцай адагнаў бабку ад малышоў. Тая яшчэ паспела крыкнуць: «Зіначка, пільнуй сябе і дзяцей, а калі сустрэнеш бацьку, дык скажы, хто нас прадаў» і назвала прозвішча прадажніка.

Заложнікаў загналі ў падвал Ляснога тэхнікума, а нам крыкнулі: «Шнэля, вэк нах хаўзэн». Памятаю, што калі я вярталася дамоў, мая даносчыца крычала мне ўслед, што таму мяне не расстралялі, бо... І ляцелі ў мой адрас брыдкія, непрыстойныя словы. А якое я, або іншыя дзяўчаты, зло зрабілі людзям за гады свайго маладога жыцця? Працавалі як і ўсе людзі, палітыкай не займаліся. Што ж мы, неадукаваныя вясковыя дзяўчаты, маглі аб палітыцы ведаць?

Быў гэта цяжкі час. Немцамі выкарыстоўваліся міжлюдскія канфлікты. Калі ў каго была нейкая злосць на суседа і доступ да ўлады, мог адпомсціцца. Я нараз у свой адрас чула горкія абвінавачанні ад людзей. За што? За тое, што працавала ў рускіх. Мне тады было дваццаць гадоў. Але я не пайшла ў нагу з акупантам.

Прайшлі гады. Многія пра вайну ўжо забылі, але я забыць не магу. Ворагу можна прабачыць, але забыць ніколі нельга.

**ВЕРА ГВАЙ, БЕЛАВЕЖА**

*

# МЫ ПРЫСУДЖАНЫЯ НА СУПРАЦОЎНІЦТВА

*Працяг са стар. 1*

раінскім дзеячом. Было гэта спатканне на тэму: нацыянальныя меншасці ў Рэчыпаспалітай пасля парламенцкіх выбараў. Гэта, на маю думку, даволі важная сустрэча, бо ўсе мы добра ведаем, які быў вынік апошніх выбараў і што быў ён таксама нечаканы для асяроддзяў нацыянальных меншасцяў. Пра гэтую сустрэчу пісала таксама польская прэса.

У лютым гэтага года мы ездзілі са сп. Баршчэўскім у Сахачэў, прамысловы гарадок сярэдняй велічыні ў Скерняўіцкім ваяводстве, дзе таксама арганізуецца гурток «Памосту». Доктар Баршчэўскі гаварыў там пра сучасную Беларусь. Мы намагаемся дайсці з інфармацыяй у асяроддзі сярэдняй праслойкі грамадства. Не маем аднак сродкаў, каб весці масавую дзейнасць, бо гэта сапраўды патрабуе велізарных грошаў, а нашае Таварыства імі не распараджаецца.

Раней, яшчэ ў 1990 г., «Памост» арганізаваў выстаўку беларускага незалежнага друку. А ў сакавіку мінулага года рабілі мы сустрэчу з прафесарам Ежы Тамашэўскім, вядомым знаўцам пытання нацыянальных меншасцяў, аўтарам некалькіх кніжак. Беларускія справы вынiклі натуральным чынам хаця б з увагі на месца сустрэчы - Беласток.

Наогул, што датычыць беларускіх спраў, дык яны даволі часта выступаюць на нашых сустрэчах.

*—Як выглядае супрацоўніцтва вашага Таварыства з арганізацыямі нацыянальных меншасцяў?*

—Перш за ўсё інфармуем мы іх пра нашыя дзеянні і на сустрэчы, якія арганізуе наша Таварыства, прыходзяць прадстаўнікі нацыянальных меншасцяў. Гэта па-першае. Па-другое, на сустрэчы запрашаем людзей з гэтых асяроддзяў. Дапамагаем сказаць ім тое, што яны хочуць сказаць.

Некаторыя з нашых членаў пішуць. Неабавязкова як журналісты - як публіцысты, напрыклад. І яны таксама займаюцца праблемамі нацыянальных меншасцяў. Таксама арганізацыі нацыянальных меншасцяў даюць нам нейкую дапамогу ў галіне інфармацыі пра нашу дзейнасць, што для нас з'яўляецца даволі важным.

*—Спадар старшыня, як Вы, як паляк, які жыве ў самым цэнтры Польшчы і чалавек, які займаецца праблемамі гэтай часткі Еўропы, бачыце перспектывы развіцця польска-беларускіх суадносін на ўзроўні Варшава -Менск?*

—Я бадай не зраблю вялікага адкрыцця, калі скажу, што мы на гэта супрацоўніцтва прысуджаныя. Існуюць тут, зразумела, магчымасці канфліктаў, прычыны якіх знаходзяцца па абодвух баках. Думаю, што каб гэтыя канфлікты не ўзніклі, абодва бакі павінны заняць такую пазіцыю, каб не ісці ў напрамку змены межаў. Адносіцца гэта, зразумела, у аднолькавай ступені і да Варшавы, і да Менска. Дзеянні, мэтай якіх з'яўляецца рэвізія мяжы, неяк аўтаматычна выклікаюць у партнёра варожыя рэакцыі. І гэта, бадай, зразумелае. Абодва бакі павінны таксама гарантаваць грамадскія правы для нацыянальных меншасцяў і нейкім спосабам падтрымоўваць іх культурную дзейнасць, зразумела, у рамках існуючых дзяржаўных сістэмаў і фінансавых магчымасцяў. Мусім, аднак, разумець, што такія магчымасці ў выпадку абедзвюх дзяржаў невялікія.

Думаю таксама, што абедзве сталіцы павінны старацца неяк уплываць на эліты сваіх меншасцяў, каб пашырыць там паставу супрацоўніцтва, а не паставу нейкай варожасці, незалежна ад гістарычнага мінулага, якое такі пункт погляду апраўдвала б. Спадзяюся, што нашы народы зрабілі нейкія вывады з гісторыі. Гісторыя вельмі выразна паказвае, што на нацыянальных канфліктах у гэтай частцы Еўропы найбольш карыстаў трэці бок, які часта гэтыя канфлікты правакаваў. Мы гэты ўрок гісторыі ўжо атрымалі і таму я з'яўляюся аптымістам. Думаю, што як польскія, так і беларускія эліты змогуць вучыцца са сваёй гісторыі і супрацоўніцтва, не гледзячы на тыя пагрозы, пра якія я тут гаварыў, з'яўляецца магчымым. Яно магчымае, але трэба сабе ўсведаміць, якіх умоў патрабуе.

*—Сардэчна дзякую за размову.*

Інтэрв'ю ўзяў
**Яраслаў Іванюк**

### ДА ЎВАГІ ПАДПІСЧЫКАЎ

Калі вы не паспелі падпісацца на „Ніву" на IV квартал 1992 года на пошце або ў аддзяленні „Рух", можаце гэта зрабіць у нашай рэдакцыі. Як заказаць падпіску ў рэдакцыі даведаецеся на 12 старонцы.

# З ДЗЁННІКАЎ С. ЯНОВІЧА

**24-11-1988 г.**
Падкасць на міжнароднасць? Даволі было Лёніку з'явіцца ў БССР як еўрапейцу, а пішуць гурмою пра яго: «ЛіМ», «Гродненская правда», «Czerwony Sztandar»... Яшчэ, магчыма, і таму, што ён... без никаких белорус! Так, ці іначай, раней гэта было б... невозможным.

**26-11-1988 г.**
Ганебныя вынікі ганебнага следства ў сувязі з 30-ым кастрычніка /„Літ. і маст." ад 18-га/.

Знакамітая рэпліка Яраслава /Stare przyzwyczajenia, «Polityka» ад 19-га, стар. 2/.

Дайшлі да маіх рук «Biuletyn Informacyjny Obozu» н-р 40, «Refleksy» н-р 12 /часопіс студэнтаў ВУ/, «Przegląd Wiadomości Agencyjnych» н-р 36. Шмат беларускай праблематыкі; відаць, дзякуючы нашым БАСаўцам. «Przegląd... » змясціў зварот да Валесы групы нацыянальнаменшасных навукоўцаў, каб не забываць пра патрэбы і напольскай Польшчы ў час будучага Круглага Стала /ад беларусаў падпісаў Туронак/. Практычнае значэнне гэтага, вядома, нулявое, але і маўчаць нельга.

Сагановіч, кажа Антось, заехаў шчасліва... Калі гэта праўда, дык завёз ён у Мінск цэлую гару нацыянальных матэрыялаў! Тамтэйшым нефармалам. Як некалі Янушкевіч.
- Пра Сачанку: не верац яму. /.../

Сёння ў Варшаве арганізуе Г. Вапа... Беларускі клуб палітычнай думкі /ужо А. Латышонак гаварыў/. Не падабаецца мне, што гэта ініцыятыва «круціцца» ў вузкім коле тых самых беларускіх дзеячоў, быццам у эміграцыі якой. Не падабаецца і тое, што - у Варшаве, дзе трэба спадзявацца польскай падпольнай маніпуляцыі. Калі сапраўды трэба, дык не ў эміграцкай нам Варшаве, але ў Беластоку, у самюткім катле нашага руху. У гэтым буферы паміж беларускім захадам і беларускім усходам.

На сход Клуба я не паехаў.

**29-11-1988 г.**
Неяк, з бядою ды з горам, крануўся папісваць гэтую халерную польскую кніжку, каб яна згарэла! За ўчора і за сёння - каля дзвюх старонак.

На двары - прырода дырдыганам уздырдыганілася: у Італіі маразы, на Балтыцы адліжны шторм, немцам гарады вада размывае, а... у Крынках снежна і ціха.

Як быццам канец з непатрэбшчынаю штораз прымаць удзел у нечым. Зайшоў Лёнік: і яму надакучаюць!

«Kultura» загаварыла пра яго, назваўшы беларускім мастаком, які, адначасна, найбольш папулярны на Захадзе - увага! - з усіх мастакоў ПНР!!! Ranking. /.../

**01-12-1988 г.**
Антось Міраповіч: /учора/ на сходзе Праваслаўнага брацтва дамінавалі студэнты, якія накінулі беларускі настрой і беларускую мову; нават а. Ян як вядучы сходу загаварыў на роднай /служыць ён у чорнабеластоцкай парафіі/.

Антось лічыць гэта пераломам.

Аб'ектыўная сітуацыя: калі хочаш быць моцным праваслаўным, дык не можаш стацца палякам, а рускім-Rosjaninem зрабіцца - зусім дзіка! /.../

Кастрычніцкі «Беларус» не паспрыяў майму спакою, зрабіўшы мяне героем нумара /поўны тэкст таронцкай прамовы, карэспандэнцыі пра аўтарскае турнэ/. Падсавецкі страх пачаў па-караедску скрэбсці маю душу ўжо ў чытанне верасnёўскага гэтага «Беларуса», у якім пакуль што даволі нягуста было Яновіча... Маёй пазіцыі ў Мінску гэтыя публікацыі не падмацуюць. Яна ў мяне ніколі там не была моцнаю. Добра, што раней пачаўся ў «Ніве» дазволены цэнзураю цыкл «У беларускай Канадзе і далей». Цяжэй будзе Бажкам «рабіць мне морду».

**02-12-1988 г.**
Выматала гутаркаю нейкая Koloski-Kister з Мічыгену. Яна, аднак, заелася пісаць дысертацыю пра нацыянальныя меншасці ў ПНР /на шчасце, свабодна гаворыць па-польску/. Надаў ёй матэрыялаў. Можа адчэпіцца...

*/працяг будзе/*

*Тлумачэнні:*

*- Г. Вапа - Генік Вапа, адзін з лідэраў Беларускага аб'яднання студэнтаў у Польшчы; ініцыятар шматлікіх палітычных пачынанняў у тую пару;*

*- халерную польскую кніжку - маецца на ўвазе кн. «Dolina pełna losu», якая была, урэшце, напісана; яе пачынае цяпер друкаваць «Czasopis», выданне Аб'яднання беларускіх журналістаў у Польшчы;*

*- Падсавецкі страх - маё падарожжа тады ў Амерыку адбывалася ў атмасферы ўсё яшчэ існаваўшай «жалезнай заслоны» і канцовак ваеннага становішча ў Польшчы; замежны пашпарт выдала мне беластоцкая міліцыя толькі пасля інтэрвенцыі праф. Мар'яна Шаматовіча, тадышняга Старшыні Ваяводскай рады ў Беластоку, лібэрала, які асабіста запрасіў мяне быць кансультантам яму па беларускіх пытаннях у рэгіёне.*

# САРНА, ВОСЬ МАЦІ!

Сеў я за стол, каб напісаць аб Сарне-Маці, якая... Напісаў загаловак і не змог пісаць далей, бо рука перастала рухацца. Адлажыў аўтаручку і пачаў хадзіць па кватэры, а сэрца трапяталася голубам.

Пасля некалькіх гадзін, наеўшыся заспакаяльных лякарстваў, зноў я ўзяўся пісаць, каб расказаць людзям, якія на свеце жывёлы.

Калі ў гэтым годзе ля Елянкі загарэўся лес, гарэла ў ім усё, што не магло ўцячы: звяры, птушкі ў гнёздах, не гаворачы ўжо аб гадзюках, паўзунах і насякомых. Пасля пажару людзі знайшлі ў лесе абпаленае цела Сарны /абавязкова з вялікай літары/, а пад ёю маленькае сарнятка - дзіцё, жывое...

Не, больш пісаць не магу. Хачу толькі спытаць, ці ўсе людзі былі б здольныя да таго, каб сваё роднае дзіцё прыкрыць сабою і згарэць дзеля выратавання малюткі?

Калі ўсе мамы /добрыя, як гэтая Сарна/ абурацца на мяне: «Як ён мог паставіць такое пытанне!» - я іх злосць да мяне сустрэну іншым пытаннем: «Ці вы чулі або бачылі, каб хаця б адна Сарна занесла свае дзіцё камусьці пад парог або ў сметнік, і пакінула?»

Калі б людзі бралі прыклад са звяроў, не было б столькі сірацінцаў.

**ВАСІЛЬ ПЕТРУЧУК**




Данута Бічэль

### БАЛАДА ПРА ГРОШЫ

Прыстаюць браты з усходу:
— Ну, дык маеце свабоду?
Раскашуйце ж у раскошы!
А ў Маскве друкуюць грошы!!!

Кажуць мне з заходу сёстры:
— У небе твой сярпочак востры,
ім пшанічку жнуць анёлы, —
прадавай палетак голы!

Пруць у сенцы морды немцы:
— Дом твой купім з патрахамі,
будзеш зноўку ты ў ярэмцы
і някормленая намі.

Зьверху цягнуцца і зьнізу:
— Мы адрэжам поля-хмызу,
растапырымся ў кустах, —
нападзе на рускіх страх.

— Не купіць вам, пустапасам,
Беларусі, што паўстала.
Хоць складзіце грошы разам,
будзе грошаў вашых мала.

Настрылі мы алоўкі,
дурнаваты выраз твару,
— намалюем сторублёўкі,
фунты, талеры, даляры...

АЛЕСЬ ЧОБАТ

* * *

Край без імя, прозьвішча й году нараджэньня
спрабуе паўстаць з магілы, робіць посьпехі -
і ўжо стаіць на каленях!

Будуць пашпарты на манер Эўропы:
толькі зь імянем і прозвішчам.
Але паўстае праблема...
Як пісаць: Шушкевіч Станіслаў
Станіслававіч
альбо Шушкевіч Станіслаў сын Станіслава?!
Каб не насьлядаваць імпэрскую Расею...

Да таго ж - палякі пратэстуюць,
што іх пазбаваць польскасьці,
касуючы пятую графу...

Край разьдзіраюць
дзьве праблемы нацыянальнага адраджэньня:
бэнзын і цукар.
Праблема самога адраджэньня вырашаная -
мова стала дзяржаўнай.
А якая дзяржава - такая і мова...

Беларускія батальёны рыхтуюцца да бітвы
за ўраджай на палёх братняга Казахстану -
аплата па дамоўленасьці.

«... з нашым войскам незале-ежным
да сваёй зямлі адзі-інай...»

Ні кроплі дажджу.
Зьбялелая трава на лугох і пустках
Новае Галілеі...

# ІГРАЛІ „ДУБІНЫ"

... пару добрых гадоў таму. Сёння можна яшчэ знайсці недзе ў Беластоку ці Гайнаўцы на страганах касеты з запісамі песень калектыву Пятра Скепкі /касеты гэтыя, хутчэй за ўсё, «пірацкай прадукцыі», грошы набіваюць на іх людзі зусім выпадковыя/. Ад двух гадоў пра калектыў «Дубіны» на Беласточчыне не чуваць - асноўны яго склад прабывае ў Злучаных Штатах. Вядома ж, грошы зарабляе там не музычнымі выступленнямі.

«Дубіны» пабывалі ў Амерыцы гады чатыры таму, на 18-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі ў Таронта. Эміграцыя прыняла іх надзвычай сардэчна і шчодра. Нашы суродзічы за акіянам назбіралі 14 тысяч долараў і закупілі калектыву добрую музычную апаратуру. З такой думкай, што гэтая апаратура будзе служыць не толькі «Дубінам», але ўвогуле анімацыі беларускай песні на Беласточчыне. Гэтаму паспрыяў перш за ўсё Алесь Палескі, выхадзец з Беласточчыны, які, дарэчы, дапамог матэрыяльна не толькі «Дубінам». Ён быў ініцыятарам і фундатарам беларусазнаўчага конкурсу для ліцэістаў і студэнтаў у 1989 годзе, за ягоныя грошы ўдалося зрабіць запісы дзвюх кружэлак менскага рок-гурта «Уліс». З «Дубінамі», аднак, яму яўна не пашанцавала. Вярнуўшыся на Беласточчыну, калектыў Пятра Скепкі даволі актыўна выступаў на беларускіх імпрэзах недзе да паловы 1990 г. Потым «Дубіны» заглохлі. Засталіся амерыканскія інструменты, якія, як кажуць, ляжаць недзе ў клуні бацькі Пятра Скепкі.

Алесь Палескі прыдумаў форму нагляду за выкарыстаннем інструментаў згодна з іх прызначэннем - папрасіў мяне, Валіка Сельвесюка, Лёніка Тарасэвіча і Юрку Туронка быць «мужамі даверу» ў гэтай справе. Пятро Скепка меў прывезці з сабою адпаведны дакумент, падпісаны ім і даверанымі асобамі з эміграцыі, дзеля падпісання яго намі і палагоджання справы перадачы інструментаў з фармальнага боку. Дакумента такога ні я, ні іншыя мужы даверу не пабачылі.

Іншая справа, што ў 1990 годзе, калі грамадска-палітычнае беларускае жыццё на Беласточчыне набрала вялізнага размаху, мужам даверу было не да інструментаў і музыкі. Сам кіраўнік «Дубіноў» Пятро Скепка прыняў удзел у выбарчай кампаніі ў самаўрадавых выбарах і стаў радным горада Гайнаўкі. А потым выбыў у Амерыку...

Усю гэту праблему з музычнымі інструментамі Алесь Палескі даволі падрабязна прадстаўляе ў артыкуле «Ці сумленне прамаўляе да чалавека?», змешчаным у эмігранцкім часопісе „Зважай" /чэрвень 1992 г./. Мае ён прэтэнзіі /часткова слушныя/ да мужоў даверу, што не пастараліся схіліць Пятра Скепку да падпарадкавання ўзгодненым паміж ім і ахвярадаўцамі варункам выкарыстання інструментаў. Гэта так, але - якія сродкі, акрамя сяброўскай намовы, можна ўжыць дзеля гэтай мэты? Калі да сумлення Пятра не прамаўляе голас фундатараў і ягоных дабрачынцаў з эміграцыі, то што казаць пра нас на Беласточчыне? Яшчэ адна справа ў нашым беларускім бытаванні-гібенні, якая папахвае скандалам...

Мой асабісты погляд такі: калі не ўдасца людзям з эміграцыі прамовіць да сумлення Пятра на 20-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі, якая мае адбыцца 5-7 верасня г.г. у Нью-Брансвіку, дык, лічы, справа прапала...

Вельмі прыкра тое, што ва ўсім гэтым найбольш даводзіцца пацярпець таму, хто ўклаў найбольш клопату і сэрца ў дапамогу беластаччанам - Алесю Палескаму. Хацеў добра і думаў, што дапамагае добрым людзям, а тут вось табе і на! Паўтараю яшчэ раз, Алесь: калі кіраўнік «Дубіноў» згодзіцца прыняць тыя варункі, якія былі пастаўлены яму пры перадачы інструментаў, тады мужы даверу могуць выканаць той абавязак, які ўзялі на сябе. А так - нічога разумнага, акрамя сваркі і ўзаемных прэтэнзій, не атрымаецца...

**ЯК МАКСІМЮК**



*Калектыў „Дубіны".* **Фота з архіва.**

# БЕЛАВЕЖА КАЛЫСКАЙ ПОЛЬСКІХ ПЕСЕННІКАЎ?

У Белавежы, улетку, ўжо ніхто не здзіўляецца, калі дзесьці на вуліцы сустрэне групку дзяўчат, якія спяваюць на ўвесь голас. Белавежцы ведаюць - гэта ўдзельніцы агульнапольскіх песенных варштатаў, якія ўжо другі год арганізуюць у мястэчку Ваяводскі асяродак анімацыі культуры ў Беластоку і Галоўнае праўленне Саюза польскіх аўтараў і кампазітараў у Варшаве.

Сёлета варштаты працягваліся поўныя два тыдні, напрыканцы ліпеня і напачатку жніўня. У Белавежу з'ехалася з розных бакоў Польшчы 20 маладых выканаўцаў, пераважна жанчын /былі толькі два мужчыны/. Спевакі-аматары прадстаўлялі розныя прафесіі, незаўсёды звязаныя з іх песенным хобі. Некаторыя з іх яшчэ вучацца ў сярэдніх школах. Але ёсць сярод удзельнікаў і асобы, якіх прозвішчы паволі становяцца агульнавядомымі. Вось, хаця б Маніка Ростэк са Сталёвай Волі - можна сказаць песенніца ўжо прафесіянальная. Яна прымала ўдзел у фестывалі ў Віцебску, заваявала там узнагароду. Малгажата Касьцельняк з Атвоцка, будучая журналістка, у сваю чаргу заняла I месца ў конкурсе «Спявайма паэзію», які адбыўся ў Ольштыне. А Каміла Міхальская з Торуня прафесіянальная актрыса, працуе ў мясцовым драматычным тэатры. Варта яшчэ прыгадаць прозвішчы Тамаша Самборскага, які займаецца ў варшаўскім клубе «Стадола» ці хаця б вядомай з фестывалю «Беластоцкія мальвы» Анны Міксы з Лодзі.

Мастацкім кіраўніком варштатаў быў вядомы музыкант, дырыжор, кампазітар і дырэктар варшаўскага аркестра «Big Warsaw Band» Станіслаў Фіялкоўскі. У Белавежу прывёз ён з сабой 5-асабовую рытмічную секцыю аркестра, у састаў якой уваходзяць Пётр Петшак, Марэк Пяскоўскі, Павел Дамброўскі, Анджэй Блажэйчык і Артур Грудзінскі. Інструктарамі, настаўнікамі, апрача С. Фіялкоўскага, былі Магда Чапінская, Януш Кандратовіч і Роберт Абцоўскі з Варшавы, а таксама Януш Папай з Беластока.

- Якая мэта варштатаў? - спытаў я Магду Чапінскую, аўтарку тэкстаў такіх папулярных песень, як «Wsiąść do pociągu», «Święty spokój», «W moim magicznym domu».

- Памагчы людзям, якія хочуць спяваць, - адказвае спадарыня Чапінская, па прафесіі клінічны псіхолаг. - Яны пераважна жывуць у невялікіх мястэчках, дзе няма ад каго навучыцца спяваць. Тады пад патранатам Саюза аўтараў і кампазітараў адбываецца штосьці накшталт «універсітэта песні». Дасведчаныя музыканты, кампазітары і аўтары дзеляцца з маладымі людзьмі сваімі ведамі, паказваюць «як гэта робіцца». Варштаты, гэта сапраўды вельмі прыдатная, сімпатычная задума. А наогул, кантакт з маладымі, вельмі энтузіястычна настаўленымі людзьмі, дае і нам карысць - адсвяжае нас, інспіруе.

Пра варштаты пытаюся таксама іх шэфа С. Фіялкоўскага, чалавека надта прадпрыймальнага, руплівага, вядомага на краёвым музычным рынку:

- Вы добра ведаеце самі, - адказвае сп. Фіялкоўскі, - што зараз польская песня апынулася амаль на самым дне. Адлюстраваннем гэтага стану рэчаў быў апошні фестываль у Аполі. У Польшчы цяпер паўсюдна царствуе чужая, заходняя песня. Як правіла, дрэнна гэта ўплывае і на выканаўчы ўзровень нашай песні. А яшчэ ёсць і такая праўда, што Польшча зараз не мае школаў, якія б выпускалі выканаўцаў песень. Адно аддзяленне ў катавіцкай музычнай школе - гэта кропля ў моры! Што белавежскія сустрэчы для польскай песні ажыўляючая крыніца, пераконваць няма патрэбы. У сэрцы Белавежскай пушчы шліфуюцца песенныя таленты. Варштаты прыносяць ужо першыя эфекты. Вось, хаця б мінулагодняя ўдзельніца Агнешка Янас з Катавіцаў, якая паспяхова прымала ўжо ўдзел у трох міжнародных фестывалях. Або вашыя дзве беластаччанкі, якія знайшлі сабе працу ў прафесіянальным тэатры.

- Мінулагоднія варштаты, - працягвае шэф «Біг Уорсоў Бэнду», - рыхтавалі маладых выканаўцаў да фестывалю «Беластоцкія мальвы». Сёлетнія таксама, але фестываль адбудзецца ў будучым годзе, а спявацца на ім будуць толькі польскія песні.

Удзельнікі варштатаў займаліся ад раніцы да вечара. Крыху скардзіліся на спякоту, а хутчэй на брак басейна для плавання. С. Фіялкоўскі звярнуў яшчэ ўвагу на малое зацікаўленне варштатамі мясцовых уладаў. Белавежа можа стаць калыскай польскіх песеннікаў, гэта гонар для мястэчка і заадно адказанасць. Шанц гэты трэба максімальна выкарыстаць. На такім мерапрыемстве можна шмат што выйграць.

Маладыя выканаўцы, перш як раз'ехаліся дамоў, далі два канцэрты - у Гайнаўцы і Белавежы. Даказалі ўсім, што два тыдні праведзеныя ў Белавежы не былі дарэмнымі.

**ПЁТР БАЙКО**

# ПІЛІГРЫМЫ І ГАНДЛЯРЫ

Год таму, калі я вяртаўся з Менска, на мытні ў Гародні паявілася 50-ціасабовая група маладых людзей з Масквы, якія ехалі ў Чанстахову на сустрэчу з папам Янам Паўлам II. Іх уваход прыцягнуў увагу натоўпу, які, як збаўлення, чакаў пераходу на другі бок мытні. Маладыя людзі з Масквы смяяліся, спявалі, дапівалі прывезеную з сабой гарэлку, а пасля пачалі шукаць ахвотных прадаць гэты «народны» напой, прапануючы сумы ў 2-3 разы большыя, чым у краме. Дзяўчаткі з Масквы былі так апранутыя, што старэйшыя жанчыны ўголас выказвалі сваё абурэнне, а мужчыны не маглі ад іх вачэй адарваць. Гледзячы на гэтую вясёлую грамаду, я ў думках стараўся сабе ўявіць, як яны будуць выглядаць сярод палякаў у той жа Чанстахове.

Успомнілася мне гэтая маскоўская група цяпер, калі знайшоўся я каля Святой Гары ў Грабарцы. Залянівы, каб ісці туды пехатою, як робяць гэта набожныя хрысціяне, рашыў я паехаць на сваёй аўтамашыне. Шашой да Бельска, перада мною і за мною, цягнуліся сотні аўтамабіляў розных марак. Калі хтось меў слабыя нервы, мог пасівець на гэтай дарозе. Але сапраўднае пекла пачалося за Сямяцічамі, адкуль да Грабаркі вядзе жвіраваная дарога. Сівы туман вісеў над зямлёю. Дваццаць метраў перад самаходам нічога не было відаць - адна сцяна пясчанага пылу. Гэта цуд, што ніхто нікога не раз'ехаў. Туман пылу і рык рухавікоў здымаў аднак святочны настрой і парываў повязь паміж чалавекам і прыродай, што так знакаміта калісь адчувалася ў Грабарцы.

Два кіламетры навокал Святой Гары лясы і палеткі застаўлены былі тысячамі аўтамашын. Натоўп людзей і несканчоныя калоны «паланезаў» і «фіатаў», «гольфаў», «ладаў» і «аўдзі» на пясчаных дарогах узнімалі тоны пылу. Зямля, на якую даўно не ўпала кропля дажджу, замянілася ў попел, крупінкі якога ад найменшага руху паветра павісалі ў ім.

Не ўсе аднак спяшалі на Святую Гару маліцца. Яшчэ перад вячэрняй некаторыя не маглі падняцца з зямлі, іншыя, як тыя маскоўскія пілігрымы ў Чанстахову, засяроджваліся толькі на тым, каб падтрымаць сваё «цудоўнае» адчуванне. Чым бліжэй гары, тым больш «рухомых бараў» і пунктаў продажу печанай каўбасы. Паміж прадаўцамі каўбасы, напояў, дзіцячых цацак і цукеркаў найбольш эфектна рэкламаваліся гандляры касетамі. У аднаго безупынна гучала «Распрагайтэ хлопцы коні», у іншых нейкі чартоўскі гармідар, што нагадваў водгаласы з бойні, перамешаныя з грукатам нейкага жалеззя. Кругом стаялі хлопцы і дзяўчаты з найпрыгажэйшымі сучаснымі прычоскамі, у губах дымелі папяросы, рукі трымалі ў кішэнях і тупалі нагамі.

Калі пасля вячэрні праходзіў я гэтай самай дарогай, там нічога не змянілася. Базарная атмасфера трывала далей, толькі на ўзгорачках гарэлі вогнішчы, а сіпатыя галасы гарлапанілі фальклорныя песні.

Ручаёк, які плыве каля самай Святой Гары, ёсць фізічнай і метафізічнай мяжой паміж адным і другім светам. За мастком мяняецца нават клімат. Не адчуваецца там нават таго густага пылу, які вісеў каля страганаў.

Магчыма, што атмасфера Святой Гары прымушае прысутных на ёй сцішыць голас, пакінуць жаль, прэтэнзіі ці нянавісць да іншых, стаць больш пакорным перад Богам і людзьмі.

Мяне заўсёды ўзрушалі тыя людзі, якія адзінока, на каленях, з крыжам у руках, хадзілі наўкола царквы. Найчасцей іх пакута была ахвярай за радню, якой хвароба ці іншае няшчасце адабралі магчымасць прысутнічаць на Грабарцы і непасрэдна маліцца ў гэтым святым для ўсіх праваслаўных месцы.

Непаўторнае ўражанне робіць паніхіда за памёрлых, якая пачынаецца апоўначы. Сярод лесу крыжоў і запаленых свечак у руках вернікаў, уздымаецца песня - прашэнне да Бога: «... памяні Госпадзі душы усопшых раб Твоіх». На Грабарку людзі едуць шукаць надзею і суцяшэнне, не толькі для сябе і сваіх блізкіх, але таксама маліцца за тых, якія адышлі ў вечнасць. Як часта чуецца ў царкве - магчыма, не ўсе яны паспелі падрыхтавацца і належна адысці з гэтага свету, і таму абавязкам жывых застаецца маліцца, каб душы продкаў знайшлі адпаведнае сабе месца. Дзесяткі тысяч імёнаў выклікаюць на «вечную памяць» святары падчас гэтай паніхіды, а слёзы ў вачах вернікаў прыпамінаюць, што немагчыма паўстрымаць непазбежнае - «праабражэнне» зямлі і чалавека.



**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**
**Фота У. Завадскага**

***

# ДЗЕЦІ З БЕЛАРУСІ Ў АЎГУСТОВЕ



У Аўгустова, што каля Бельска, прыязджалі на адпачынак дзеці з Хойнікаў і Петрыкава, з зоны забруджанай у выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Пяць хлопчыкаў і пяць дзяўчынак прабывалі ў гэтай вёсцы тры тыдні /ад 15 ліпеня па 4 жніўня/. Іх пабыўку арганізаваў настаяцель мясцовага прыхода айцец Яўген Хадакоўскі. Дзяцей пасялілі ў прыхадскім доме і ў некаторых сялян. Усе дзеці абедалі на плябаніі. Перад абедам дзеці маліліся разам з бацюшкам. Айцец Яўген арганізаваў малым госцям экскурсіі. Ездзілі яны ў Гайнаўку і Белавежу, былі ў прыродазнаўчым музеі, бачылі зуброў у запаведніку, наведалі Святадухаўскі сабор, у якім праводзяцца «Дні царкоўнай музыкі».

Дзеці былі вельмі задаволены пабыўкай і моцна дзякавалі а. Яўгену і матушцы за іх добрае сэрца.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**
**Фота Андрея Клімюка**




### ФОТАПЕРЫЯДЫЗМ

Было гэта даўно. У Бельск-Падляшскі з дакладам прыехаў сакратар Ваяводскага праўлення Таварыства распаўсюджвання ведаў грамадзянін М. У школьнай зале сабраліся слухачы. Дзень быў цёплы, летні. Дакладчык гаварыў пра расліны доўгага і кароткага дня, пра з'яву фотаперыядызму ды пра залежнасць іх ад геаграфічнага асяроддзя. На канец сказаў, што гэта ўсё адкрылі Лысенка і Мічурын. Пачалася пустаслоўная дыскусія. Я тэму добра ведаў і таму вырашыў узяць слова, каб выправіць памылковыя выказванні госця.

- Тое, што сказаў грамадзянін М. аб фотаперыядызме, - гаварыў я, - незусім праўда. З'ява гэта была адкрыта амерыканскімі вучонымі Гарнерам і Алардам у 1920 годзе. Пра гэта можна прачытаць у кнізе Г. Паплаўскай «Экология растений» выдадзенай «Советской наукой» у 1948 годзе. Вось яна перада мной. Гляньце на 190 старонку! А калі вы лічыце, што ў прыродазнаўстве ўсё адкрылі Л. і М., дык за што атрымалі званні дактароў і прафесароў Вавілаў, Ціцын, Жукоўскі і іншыя.

- Вы гаворыце нязгодна з агульнымі прадпасылкамі. Нам трэба паказваць дасягненні славянскіх вучоных... Вы нягодны сённяшняга дня... Вы бессаромны касмапаліт, - перабіў блытана і ўсхвалявана дакладчык.

- Шкада, што вы мяне невукам не назвалі, - працягваў я. - Патрабую ад вас паказаць арыгінальнае пасведчанне заканчэння хаця б сёмага класа... Паводле вас я не маю права гаварыць таго, што напісана ў савецкай кніжцы? Га? Гэта па-вашаму справядліва?

Грамадзянін М. пабагравеў ад гневу, схапіў са стала кніжку і кінуў проста ў мяне. Кніга разляцелася ўшчэнт! Я таксама ў даўгу не астаўся. Скінуў чаравік і хляснуў ім па лысіне таго ж М. Госць з ваяводства ўзяў чаравік у руку і намагаўся ўдарыць па мне, але я схаваўся пад парту. Увесь задыханы агледзеў ён чаравік і схаваў яго ў свой партфель, гаворачы: «Гэта будзе рэчавы доказ».

Як жа мне дабрацца дадому без чаравіка? Боса? Непрыемна. Скінуў я нацельнік, абвінуў ім нагу, узяў тронак ад мятлы і, прыкідваючыся цяжка раненым у нагу, пашкандыбаў на вуліцу Спартовую 6.

Судовую справу М. прайграў. Ён жа гаварыў хлусню ды першы кінуў у мяне кнігай. Чаравік мне аддалі.

Такі быў час!

**БАРЫСЛАЎ РУДКОЎСКІ**




**З дакументаў Генеральнага штаба /II Аддзела/, Варшава 1928.**

- 69 -

Трэба адзначыць, што ў сваіх дэкларацыях урад Ластоўскага выказваўся супраць саветаў, аднак утрымліваў ён кантакты з савецкім урадам, аб чым сведчыць, між іншым, арыштаванне літоўскімі ўладамі беларускага кур'ера, які ехаў у Менск. Староннікі Ластоўскага намагаліся перад усім пашырыць свае ўплывы на сялянства, распаўсюджваючы па вёсках літаратуру, якая была насычана нянавісцю да ўсяго, што польскае. Не будучы ў стане дзейнічаць легальна, друкаваныя ў Коўне і Вільні адозвы распаўсюджвалі яны нелегальным шляхам.

Апрача ўплыву на сялянства агітатары Ластоўскага стараліся ўздзейнічаць на рускі элемент сканцэнтраваны ў гарадах. Руская - гэта быў сапсаваны, няпэўны палітычна элемент, які ахвотна прыхіляўся да беларускага руху, каб такім чынам дзейнічаць супраць Польшчы. Дзякуючы такой прапагандзе нярэдка ўдавалася перарабіць рускіх на беларусаў.

Урад Ластоўскага атрымаў ад ковенскага ўраду пазыку на 1 млн. нямецкіх марак і 40 млн. ад нямецкага ўраду на арганізаванне падраздзяленняў, якія мелі быць выкарыстаны ў баях у выпадку польска-літоўскай вайны. Як беларусы, так і літоўцы прадбачвалі ў 1920-1921 гадах магчымасць ваеннага канфлікту за Вільню паміж Ковенскай Літвой і Польшчай. У гэтым часе ўзнік наступны план: калі б пачалася збройная барацьба Ковенскай Літвы і Беларусі супраць Польшчы, тады мела быць выклікана збройнае антыпольскае паўстанне ў той частцы Польшчы, якая згодна з Рыжскім трактатам адышла пад Польшчу. У такім выпадку з дапамогай для Літвы і Беларусі прыйшлі б савецкія войскі.

У сувязі з канцэпцыяй супольнага змагання Беларусі і Літвы з Польшчай узнік праект будучай федэрацыі Літвы і Беларусі. Дня 11.XI.1920 г. у Коўне было падпісана беларуска-літоўскае пагадненне, а Пурыцкіс - літоўскі міністр замежных спраў меў заявіць у інтэрв'ю дадзеным рыжскаму карэспандэнту рускамоўнай газеты «Сегодня», што ў выпадку ўзнікнення незалежнай Беларусі была б магчыма яе федэрацыя з Літвой.

На пачатку 1922 г. склад ураду Ластоўскага ў Коўне выглядаў наступным чынам:

Вацлаў Ластоўскі - прэм'ер-міністр,

Аляксандр Цвікевіч - міністр справядлівасці,

Жылтоўскі - міністр нацыянальных меншасцей, прадстаўнік «Сусветнага сіяністкага бюро».

Апрача таго ў склад ураду ўваходзілі: інж. Душэўскі, члены Рады Рэспублікі: Язэп Варонька, Галавінскі, палкоўнік Езавітаў, былы шэф дыпламатычнай і вайсковай місіяў у Латвіі і Эстоніі Бароўскі, Ермачэнка і другія.

Кожная ініцыятыва гэтага ўраду ў галіне замежнай палітыкі была інспіравана немцамі праз пасрэдніцтва Ковенскай Літвы або і без яе пасрэдніцтва. Залежнасць гэта вынікала з фінансавай падтрымкі, якую аказвалі ўраду Ластоўскага немцы, а пасля сіяністы.

Як вядома, ноччу з 4/5 сакавіка 1922 года з Вільні былі выселены ў Ковенскую Літву 33 беларускія і літоўскія дзеячы, Члены Беларускага нацыянальнага камітэта Гарэцкі, Карабач, Краскоўскі, Пракулевіч і іншыя выехалі ў Коўна. Як ковенскі ўрад, так і ўрад Ластоўскага прынялі іх вельмі добразычліва. Літоўцы запрапанавалі Краскоўскаму пасаду міністра па беларускіх справах у ковенскім урадзе, але гэтаму рашуча супрацьставіўся Ластоўскі. Прычынай пратэсту было тое, што Ластоўскі не бачыў у асобе Краскоўскага паслухмянага інструмента сваёй палітыкі. На пасадзе беларускага міністра Ластоўскі ахвотна бачыў бы Гарэцкага, аднак і Гарэцкі, і Краскоўскі прапанаваных ім функцый не прынялі і выехалі ў Латвію.

*/працяг будзе/*

# МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

**Чай** людзі ведаюць з даўніх часоў. У Індыі карысталіся ім ужо тры тысячы гадоў таму назад. У Кітаі ў той час настойкай з чаю лячылі хворых. У іншых краінах пра яго даведаліся значна пазней.

У Англіі больш трыста гадоў назад чай заваяваў славу карыснага, але вельмі дарагога напою. Купляць яго маглі толькі каралеўская сям'я ды багацеі.

У Маскву кітайскі чай упершыню прывёз царскі пасол Пярфільеў. Але пачаставаць цара Аляксея Міхайлавіча настойкай невядомай травы слугі пабаяліся. А раптам ад прывезенага зелля цар захварэе? Тады прыдворны доктар Калінс выпашыў сам пакаштаваць чай. Спроба прайшла ўдала ў студзені 1665 года. З таго часу чай на Русі ўсё больш і больш уваходзіў у моду.

У Расіі пачалі разводзіць чайнае дрэва ў 1833 годзе, калі з-за мяжы прывезлі насенне і саджанцы чайных кустоў і пасадзілі іх у Нікіцкім батанічным садзе. Але тут умовы для чаю аказаліся неспрыяльнымі і ў 1846 годзе расліны былі перавезены і пасаджаны ў Сухумі. Добрыя кліматычныя ўмовы ўзбярэжжа Чорнага мора ў Грузіі аказаліся спрыяльнымі для развядзення чаю.

/а-ця/

## ВЕР-НЕ-ВЕР

**Астроне!** Мне прыснілася, што я паехала на вёску да сваёй маці. Прыехала. Маці не бачу, але ведаю, што яна памыла бялізну. Я кажу, сваёй сястры, што мама памыла светлы плашч разам з чорным світэрам. Світэр такі прыгожы, доўгі, чорны, а цяпер на яго начаплялася белых нітак. Што можа абазначаць гэты сон, Астроне?

**Валянціна**

Шаноўны Астроне! Каб ты ведаў, які мне прысніўся сон! Вось ідзем мы быццам з маленькім сынам па лузе. Раптам бачу, што ногі ў нас пачынаюць грэзнуць. Балота! Але ідзецца нам усё ж даволі лёгка. Раптам бачу, што сярод дрыгвы тырчаць вялізныя кавалкі мяса. Не, гэта ж паабразаныя конскія галовы тых коней, якія толькі што пасвіліся на лузе. Гэтых галоў шмат, яны быццам бы падрыхтаваныя да яды. Не ведаю, былі яны вараныя ці сырыя. Што гэта такое?

**Рэгіна**

Валянціна! Твой сон сведчыць аб тым, што чакае цябе ці тваю сям'ю нейкая крыўда, непрыемнасці, а можа нават хвароба. Мыць бялізну ў сне - нядобра.

Рэгіна, а твой сон прадвяшчае, што рухнуць нейкія твае жыццёвыя планы. Быў луг, пасвіліся коні - была надзея на перамогу. І раптам ты бачыш тыя паабразаныя конскія галовы, што тырчаць з дрыгвы. Не ўдасца табе нешта, Рэгіна. Замест перамогі ў справах будзе балота. Паколькі справа датычылася мяса, можа гэта быць і нейкая хвароба.

**АСТРОН**

# АДПАЧЫЦЬ У ДУБІЧАХ – ЦАРКОЎНЫХ

*Працяг са стар. 1*

мэтаў: навадненне палёў, экстэнсіўная гадоўля рыб і адпачынак. Гэтыя тры функцыі і выконвае. Вада тут чыстая, гайнаўская санітарная станцыя што два тыдні робіць доследы і пацвярджае гэта. Толькі што змена вады малаватая, забруджваецца яна біялагічна, „цвіце" і трэба яе штораз спускаць. Робім гэта звычайна на зіму, адначасова адлоўліваем тады рыбу. У мінулым годзе ваду не спускалі, дык сёлета зрабіць гэта абавязкова трэба".

Дубічы-Царкоўныя - невялікая гміна на ўскраіне Белавежскай пушчы. Усяго тут каля трох тысяч жыхароў, большасць якіх займаецца сельскай гаспадаркай. Зямля, аднак, слабая, у большасці пятага і шостага класаў, плёну вялікага не збярэш. «Сёлета і звычайнага не будзе, - кажа Анатоль Паўлоўскі, - прадбачваем на 30 працэнт меншы ўраджай збожжа, чымсьці летась. Калі заплаціць за ўсе паслугі, за той жа камбайн ці снопавязалку, дык гаспадару прадукцыя зусім не аплачваецца. Я асабіста хацеў бы, каб жыта каштавала мінімум 120 тысяч злотых за цэнтнер, а пшаніца - 200 тысяч».

Калі з сельскай гаспадаркі не зажывеш, дык можа з пушчы? Аднак не з рабунку, толькі захоўваючы яе, зберагаючы і ўмела выкарыстоўваючы яе якасці. Дзеля гэтага ствараецца Саюз гмінаў Белавежскай пушчы. Дубічы таксама вырашылі прыступіць да Саюза. Галоўная яго мэта - захаваць Белавежскую пушчу, спадчыну сусветнага значэння і адначасова дапамагчы людзям актывізаваць абшары, якія мяжуюць з пушчай. Можа тут развівацца экалагічная гаспадарка, прадукцыя здаровых харчоў. На апусцелай зямлі будзе пасаджаны лес. Добрыя варункі для турыстыкі.

У Дубіцкай гміне апрача вадасховішча Бахматы ёсць яшчэ прыгожы асяродак адпачынку ў Старыне. Войт шкадуе, што да гэтай пары ён слабавата выкарыстоўваецца. Улетку яшчэ сяк-так, але ў іншыя поры года амаль зусім няма ў ім наведвальнікаў. А там жа так прыгожа, лес, ціха, спакойна. Зімой, напрыклад, можна было б арганізаваць паездкі на санках.

«Дзеля развіцця турыстыкі патрэба інвестыцый, - кажа Яланта Соха, - бо цяпер усё трымаецца толькі на працаўніках Гміннага асяродка культуры. А патрэбна тут прафесійная кадра, сучаснае абсталяванне, забеспячэнне харчамі, арганізацыя адпачынку.»

У Дубічах вераць, што турыстыка ў іх будзе развівацца з году ў год. Перш за ўсё на патрэбы навакольных мястэчак: Гайнаўкі, Бельска, Кляшчэль. Ужо цяпер на суботы і нядзелі на Бахматы прыязджае каля пяці тысяч асоб, якраз галоўным чынам з гэтых мясцовасцяў. Хто ведае, можа ў будучыні Дубічы стануць курортнай мясцовасцю для цэлае паўднёва-ўсходняе Беласточчыны.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**



*Цікавы „камбайн" на полі каля Дубіч –Царкоўных.*

# Зорка
## Старонка для дзяцей

### Для самых маленькіх

АСЕН БОСЕЎ

**МАЯ КНІЖКА**

Ты сястра мне і сяброўка,
Як радня паміж радні.
Кожнае тваё мне слоўка
Столькі дорыць дабрыні!
Голас твой усюды мілы
І штораз яшчэ мілей,
Як твае старонкі-крылы
ўсё вышэй мяне, вышэй

Падымаюць над гарамі,
Над бязмежнасцю раўнін.
Колькі я тваймі вачамі
Бачыў гарадоў, краін!
Колькі мне сяброў на свеце
Ты знайсці дапамагла!
Горнуцца ўсе на планеце
Дзеці да твайго святла.
Змалку ты мяне вучыла
Шанаваць сваю зямлю
І ў душы навек злучыла
ўсё, што моцна я люблю:
Песню родную і слоўка,
Круг сяброўскага кастра,
Верная мая сяброўка,
Добрая мая сястра!



УЛАДЗІМІР ВЕРАМЕЙЧЫК

**ВЕРАСЕНЬ**

Зялёна-жоўтую заслону
Всёла верасень прыўзняў:
Ля школ святочныя калоны,
Бульбакапалкі на загонах,
І песні радасна звіняць.

Яшчэ нясмела ходзіць восень,
Спыняе крок свой у двары,
Але работ, як кажуць, восем:
Аром, капаем, сеем, косім
Да самай цёмнае пары.

Ды ёсць два святы - быццам крылы,
Нас над зямлёй яны ўзнялі:
Са святам ведаў свята міру
У верасні зліліся шчыра,
Ідуць два святы па зямлі.

***



*Галоўны госць.* **Фота Міры Лукшы.**

*Добры дзень, дарагія Чытачы! Вітаю вас у першыя дні школы. Маю надзею, што вы не забылі мяне, што кожны дзень я буду ў вас у класе і дома.*
*Чакаю вашых лістаў!* *Ваша «Зорка»*

## ЛЯЛЬКІ З ПАУНОЧНАГА ШОЎКУ

Беларусь сінявокая... Такі паэтычны вобраз узнік, пэўна, ад блакітнага колеру кветак ільну - нацыянальнага багацця краіны. З яго мяккага, шаўкавістага, срабрыста-шэрага валакна ткалі ручнікі, посцілкі, палатно для адзення.

Сучасныя майстры мастацкіх промыслаў прыдумалі льновалакну яшчэ адно прымяненне: для стварэння арыгінальнай сувенірнай пластыкі. Пачатак промыслу паклала майстрыха Маладзечанскай фабрыкі мастацкіх вырабаў Зінаіда Ляўчэня, якая яшчэ дваццаць гадоў назад звярнула ўвагу на выдатныя пластычныя і дэкаратыўныя магчымасці льновалакна. З яго атрымаліся забаўныя нацыянальнасвоеасаблівыя фігуркі жней, пастушкоў, касцоў, ваданосак... Срабрыстыя валокны льну, па-рознаму перагнутыя і перавязаныя ў пэўных месцах, дапаўняюцца каляровымі ніткамі, тасьмаю, драўлянымі такарнымі дэталямі, імітуючы колішняе народнае адзенне.

Наколькі традыцыйныя такія сувеніры? Прамых аналогій у ранейшым народным побыце мы не знойдзем. Але розныя лялькі з анучак, пучкоў саломы і іншага падручнага матэрыялу дзецям калісьці майстравалі ў кожнай сялянскай хаце. Так што сучасныя сувенірныя лялькі з ільновалакна - натуральны працяг і развіццё колішніх народных традыцый.

Я. САХУТА

## КАЗКА ПРА ЗАЙЦА, ЯКІ ЎСІМ ЗАЙЗДРОСЦІЎ

Заяц-шарачок сядзеў на беразе возера, глядзеў у празрыстую ваду і ўздыхаў:

- Чаму ў мяне няма такога пушыстага хваста, як у вавёркі? Чаму ў мяне не такія тоўстыя лапы, як у мядзведзя?

Усім зайздросціў заяц - ваўку, лісе, аленю, нават птушкам.

Надакучыла возеру слухаць зайцавы ўздыхі. Паслала да яго чароўную рыбку, і сказала тая зайцу:

- Бяжы ў лес. Да каго са звяроў дакранешся, на таго і будзеш падобны.

Узрадаваўся заяц. У лес паскакаў. Дакрануўся да вавёркі - і з'явіліся ў яго на вушах кутасікі.

Пабег далей. А насустрач яму мышка. Узяла ў лапкі свой хвосцік і скача, быццам цераз скакалку.

«Мне б так» - падумаў заяц. Дакрануўся да мышкі - і адразу ў яго хвосцік вырас, тонкі і доўгі.

Бегаў, бегаў па лесе заяц. Нарэшце сталі ў яго лапы тоўстыя - як у мядзведзя, вочы круглыя - як у савы, на спіне крылы выраслі, на галаве - рогі...

Вырашыў заяц перад сваімі братамі-зайцамі пакрасавацца. Прыскакаў на паляну. Але як толькі зайцы яго ўбачылі, мігам пахаваліся. І астатнія звяры разбегліся. І птушкі разляцеліся. Ніхто зайца не пазнае.

Вярнуўся заяц да возера і жахнуўся: глядзіць на яго з вады страшыдла - крылатае, насатае, рагатае... Задрыжаў ён, хацеў кінуцца наўцёкі, ды тут чароўная рыбка выплыла і пытае:

- Ну што, заяц, задаволены?

- Дык гэта я?!

- А хто ж? Ты! - рыбка махнула хвастом і знікла.

Застаўся заяц адзін. Плача на беразе. Слёзы на зямлю падаюць і цякуць у лес, пра гора зайцава расказваюць.

Пашкадавалі зайца звяры і птушкі. Сабраліся каля возера. Хаця і боязна, а ўсё ж да страшыдла дакрануліся. І зноў стаў ён зайцам-шарачком.

ТАЦЦЯН А КАРАСІКАВА



МІКОЛА ЧАРНЯЎСКІ

**КОЛЬКІ?**

Я пайшоў у першы клас.
А са мной -
Сяргей,
Тарас,
Клава,
Зіна,
Кім,
Пятрусь,
Каця,
Саша
І Кастусь.
Нас рассаджваць пачалі -
Мы пяць партаў занялі.
І яшчэ ж у гэты час
Шмат зайшло дзяцей у клас.
Палічыў іх потым я -
Больш, чым нас, было ўдвая.
Колькі партаў месціць клас?
Колькі ўсіх у класе нас?





*Летні ўспамін.*
**Фота Міры Лукшы.**

## З КОШЫКАМ У ЛЕСЕ

Грыбы лепш за ўсё збіраць зранку. Вільготная шапачка зіхаціць на сонцы і добра бачна здалёк. Раніцай грыбы самыя моцныя і свежыя. Народная мудрасць сведчыць: «Каб грыбоў назбіраць - трэба рана ўстаць».

Але ў незнаёмым лесе, захапіўшыся, вельмі лёгка заблудзіцца. Таму важна ведаць лясныя арыенціры і ўмела імі карыстацца. Азірайцеся зрэдку назад, прыкмячайце асаблівасці - ручай, вялікі камень і г.д. Тады лягчэй будзе знайсці дарогу. Без компаса можна вызначыць, дзе поўнач ці поўдзень. У сасны з паўночнага боку кара грубейшая і таўсцейшая. На свежых пнях гадавыя кольцы больш шырокія з поўдня. Мурашнікі заўсёды знаходзяцца з паўднёвага боку дрэва, а іх паўднёвы схіл больш пакаты.

Калі ў лесе ёсць прасекі, што дзеляць яго на кварталы, на іх скрыжаваннях стаяць слупы, на якіх з чатырох бакоў напісаны нумары кварталаў. Грань слупа паміж дзвюма найменшымі лічбамі паказвае на поўнач.

Збіраць грыбы зручна з невялічкай палачкай з рагулькай на канцы . Ёй можна, не згінаючыся, падняць ліст ці яловую галінку, адгарнуць павуцінне. Той, хто клапоціцца аб захаванні прыроды, павінен ведаць, што грыб трэба асцярожна выкруціць, павярнуўшы два-тры разы вакол восі, а ямку засыпаць зямлёй. Гэтага дастаткова, каб грыбніца працягвала расці.

Грыбы лепш за ўсё збіраць у кошыкі з лазы альбо лыка. У цэлафанавых мяшках і вёдрах яны хутка псуюцца без паветраабмену. Варта ўспомніць тут яшчэ адну прымаўку: «Не хадзі па грыбы з вядром - не губі лясное дабро».

Зразумела, не кожны паход па грыбы заканчваецца багатай здабычай, але гэта, пэўна, і не самае галоўнае. Ніякая смажанка не заменіць цудоўных сустрэч з асеннім лесам.

*

## ВЫНАХОДНІК

Вася Курачкін з'явіўся ў 7-м "А" ў другім паўгоддзі. Вясёлы і гаваркі, навічок хутка зблізіўся з аднакласнікамі. Быў ён з тых, хто ўмее і пасмяшыць і расказаць цікавую гісторыю.

Праўда, хутка да яго расказаў сямікласнікі сталі губляць цікавасць. І тут пранеслася чутка, што Вася - вынаходнік.

Сцвярджалі нават, што бачылі ў яго ліст ад вядомага вучонага, з якім Вася перапісваецца.

Навічку гэтыя размовы, відаць, былі да душы. І калі бачыў скіраваныя на яго цікаўныя позіркі, ён прымаў важны выгляд і заклапочана папраўляў акуляры.

- Пра што думкі твае, стары? - неяк звярнуўся да яго Пеця Дранчук.

А Вася быццам толькі і чакаў пытання, стаў яшчэ больш важны:

- Пра энергетычны крызіс чуў? Колькі людзей над гэтым б'еццa! Але ж... Адным словам, проста неабходна, каб з'явіўся новы Эдысон...

Нашага Васіля, як кажуць, панесла. Слухаючы яго, можна было падумаць, што ён і нарадзіўся толькі для таго, каб вынайсці для чалавецтва невычарпальную крыніцу энергіі.

- Канечне, мая задача куды больш сціплая, - працягваў ён. - Веласіпед! Так-так, веласіпед! Сучасны аўтамабіль з яго пражэрлівым чэравам - гэта ўжо ўчарашні дзень. Лічу, што веласіпед застанецца самым выдатным вынаходствам. Але, на жаль, ён стаў пасынкам і менавіта таму амаль нічым і не адрозніваецца ад таго, першага, які зрабіў у свой час Артамонаў. І прынцып руху - "цісні на педалі" - у яго ўсё той жа. Дык вось, гэты прынцып я хачу змяніць. Гэта ж проста жудасна, колькі мы трацім мускульнай энергіі. А навошта? Яна ж кожнаму патрэбна.

А зараз уявіце: вы ўзялі ў рукі тэрмометр. Кожны ведае, што ртутны слупок тут жа папаўзе ўверх. А вы ж ніякіх намаганняў не прыклалі! Менавіта так, узяўшыся за руль веласіпеда, вы будзеце рухацца. Тут энергія, як гаворыцца, і сапраўды ў вашых руках.

Пеця Дранчук выцягнуў рукі з кішэняў і стаў уважліва разглядаць далоні, быццам шукаў на іх тыя нябачныя воку сілавыя лініі.

- Ну і фантазія ў цябе! - толькі і вымавіў ён.

- Што ты! Якая фантазія! Гэта ўжо амаль рэчаіснасць, - упэўнена адказаў Вася. - Засталася толькі дробязь з цеплавым генератарам, рэгулёроўка электрычнага модуля і...

І вось якраз тут аднекуль з'явіўся Лёнька Пыжкоў са сваім транзістарам.

- Браткі, дапамажыце. Зноў нешта з ім. Можа, ты паглядзіш? - звярнуўся ён да Васі. - Ты ж у нас майстар.

- Прабач, але я за такую справу без тэстэра не вазьмуся, - адказаў ён паспешна, і пры гэтым у яго пачырванелі вушы.

А Лёня яшчэ больш разгубіўся.

- Давай яго сюды, - не вытрымаў нарэшце Пеця.

Ён узяў прыёмнік, шчоўкнуў выключальнікам. Транзістар маўчаў. Пеця спрытна зняў накрыўку блока сілкавання, пакратаў батарэйкі. Пачуўся трэск, а за ім з транзістара вырваўся знаёмы голас спявачкі: "Вучаць у школе, вучаць у школе, вучаць у школе..."

Усе весела загулі, а Вася Курачкін, карыстаючыся замінкаю, кудысьці знік. Ды гэта і зразумела: трэба ж некаму ратаваць чалавецтва ад энергетычнага крызісу.

А потым бачылі, як ён увесь вечар гойсаў па двары на веласіпедзе. І навошта чалавек столькі мускульнай энергіі траціць?! Хутчэй бы ўкараняў сваё вынаходсва! А так вунь колькі людзей па ранейшаму "цісне на педалі"!

**МІКОЛА ЗАРЫЦКІ**

## НАДВОР'Е І НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

Гром у верасні прадвяшчае доўгую восень.
У першы дзень бабінага лета ясна - восень будзе цёплая.
Масавы палёт маладых павучкоў на доўгіх павуцінках - прыкмета доўгага і цёплага бабінага лета.
Мышы будуюць гнёзды наверсе коп - будзе восень доўгая і мокрая.
Шпакі доўга не адлятаюць - восень будзе сухая.
У лесе на рабіне багата пладоў - восень будзе дажджлівая.

************** **************

## КРОТ

Крот, бадай, адзіны звярок на Беларусі, які жыве ў зямлі і адчувае там сябе нібы рыба ў вадзе.

На пярэдніх яго лапах, падобных на вострыя капачкі-лапаткі, растуць доўгія і моцныя кіпцюры. Лепшых і не трэба для нястомнага рыцця норак-ходаў. Яшчэ ў звярка ёсць нос-хабаток. Ён і зямлю ім капае, і ежу, дзякуючы выдатнаму нюху, знаходзіць. Праўда і тое, што падземны жыхар дрэнна бачыць. Таму людзі часам кажуць, калі хтосьці моцна недабачвае: «Сляпы, як крот». Ды пільныя вочы ў падзямельнай цемені не надта й патрэбныя. Затое звярок вельмі добра чуе. Гэта яго і ратуе ад ворагаў-драпежнікаў - лісы, куніцы, ласкі, гарнастая. Палююць на крата і птушкі - буслы, чаплі, а таксама совы.

Жыве крот на лугах і гародах, у парках і садах. Любіць ён мяккую, урадлівую зямлю. У засушлівыя гады трымаецца лагчын і балацявін, дзе шмат чарвякоў, а ў дажджлівыя абжывае ўслед за чарвякамі ўзгоркі. Гняздо сваё робіць пад зямлёю. Усцілае яго сухім лісцем, травою. Там у канцы вясны з'яўляецца некалькі маленькіх, зусім бездапаможных кратянят. Бацькі-краты кормяць іх лічынкамі жукоў, хрушчоў, а як падрастуць - дажджавымі чарвякамі. Цяжка сказаць, чаго падземны жыхар прыносіць нам больш - карысці ці шкоды. Ён псуе гароды, карані садовых дрэў, але разам з тым перамешвае зямлю, спрыяе яе ўрадлівасці. На кратавінні добра расце малады лес.

А як не ўспомніць кратовае футра, якое звярок мяняе аж тры разы на год! Яно цёмна-шэрага колеру, поўсць густая, кароткая. У кажушку з кратовых шкурак ніякі мароз не страшны!

**УЛАДЗІМІР ЯГОЎДЗІК**

## ШКОЛЬНЫЯ АНЕКДОТЫ

- Вы што, завялі сабе сабаку?
- Не, што вы, з ім жа столькі праблем... А калі ўночы чуем падазроныя гукі, дык брэшам самі!

ххх

Ідзе па вуліцы Вася: на адной назе ў яго валёнак, а на другой - гумовы бот.
Сустракае Вася Вову:
- Ты што гэта, Вася, так абуўся?
- А па радыё прагноз надвор'я такі перадалі: месцамі - дождж, месцамі - снег.

ххх

У заапарку:
- Вовачка, не падыходзь так блізка да льва, у яго могуць быць блохі.

ххх

- У вас зусім маленькая кватэра?
- А як вы здагадаліся?
- Ваш сабака махае хвастом не з боку на бок, а ў верх і ўніз.

ххх

Сабраліся Калабок з Ваўком біцца. Калабок і кажа:
- Толькі давай дамовімся: па галаве не біць.

ххх

Па тэлефоне:
- Куды я трапіў?
- А куды ты мецiў?

*Сабраў У. ТУР*




Мілае Сэрцайка! Скажы, калі ласка, ад чаго можна пакахаць чалавека? Ну, разумею, калі партнёр прыгожы, прыстойны. Але ж бываюць выпадкі, калі вельмі прыгожая жанчына выходзіць замуж за абы-якога мужчыну, а нават здараецца /хоць значна радзей/ і наадварот. Няўжо гэтым людзям у жыцці будзе добра разам? Няўжо той прыгажэйшы не будзе скакаць «на бокі»?! Ды і наогул я не магу зразумець, як можна пакахаць брыдоту. Растлумач мне крыху падрабязней, бо я ж толькі ўваходжу ў жыццё і не ведаю, як тут ва ўсім гэтым разабрацца.

**Анюта**

Анюта! Адразу відаць, што ты толькі ўваходзіш у жыццё. Таму рабром ставіш пытанне абыякавасці. І тут /нявопытнасць!/ для цябе, здаецца, усё ясна: абы-які партнёр гэта чалавек, які «не грэшыць» асаблівай прыгажосцю. На тваю думку, партнёр можа быць прывабны толькі тады, калі ён прыгожы і прыстойны.

А вось і няпраўда! Калі падрасцеш, зразумееш, што ў кожным чалавеку можна знайсці жамчужынку прыгажосці. Цяжка нават акрэсліць, што гэта будзе, але знойдзецца такі момант, калі сустрэнуцца вочы партнёраў, і нешта ткне ў сэрцы, а цэлае цела агорне цяпло. Можна раптам адкрыць, што найахвятней цалаваў бы вунь гэтую пампушку, ці шрам або сляды ад воспы на твары менавіта гэтага мужчыны.

Каханне - гэта тады, калі нешта цягне чалавека да чалавека, незалежна ад ацэнак з боку знешняга асяроддзя. Гэта не ахвота паказвацца камусьці - а жаданне быць пастаянна разам з каханым, цешыцца з ім радасцямі жыцця ўдзень і ўначы.

Момант гэтага прыцягвання чалавека да чалавека можа быць абсалютна нечаканы. Знаёмая расказвала, як закахалася ў свайго будучага мужа на дарозе. Ён якраз прыехаў з войска на пабыўку ў родную вёску. У вайсковым мундзіры, ён гнаў кароў, рытмічна пасвістваючы ў паветры пугай і прыгаворваючы: «Вё, вё!», а яна ішла за ім і назірала. Той рытмічны свіст пугі... А аднаму вось дзяўчына імпанавала тым, што выліла яму збан кампоту на галаву, калі не згаджўся з ёю. Ведала, чаго хоча, і стала, трэба прызнаць, яго жонкай. Той кампот...

Часамі можна закахацца ў чалавека, бо эмануе з яго дабрыня, цеплыня, ласка, у мужчыны - сіла. Найчасцей, аднак, мяркую, што вырашае аб усім «пасцель», вядома, маю тут на думцы палавыя зносіны.

Усе пералічаныя вышэй моманты, ды і шмат якіх іншых з'яўляецца падставай і далейшага супольнага жыцця. Гэта значыць, што «скокі ў бокі» - не заўсёды прывілея прыгажэйшага боку, хаця ён, вядома больш падвяргаецца рознага роду атакам. Яго «абыякі» партнёр толькі для знешняга назіральніка можа здавацца шэрым і нецікавым, а ён то ўжо сваё ведае.

**СЭРЦАЙКА**

## ЧАМУ ІХ СКРЫЎДЗІЎ?

Крыся доўга не выходзіла замуж. Наглядзелася, як жылі сёстры. Адной, праўда, было добра, а другой - не. Што будзе, - думала, - калі будзе дрэнна, як той нашай Марыі?...

Аднойчы пазнаёмілася з хлопцам з другога горада. Рашылі ўзяць шлюб.

Жылі добра. Усе суседзі ім зайздросцілі. Нарадзіліся два хлопчыкі. Усе думалі, што ніколі не расстануцца.

Старэйшая сястра жаніла сына. Муж Крысі сказаў, што не паедзе на вяселле. Жонку выправіў, як трэба. Крыся нічога не падазравала, паехала.

Калі Крыся памагала сястры прымаць гасцей, муж прывёў каханку. Хлопчыкі пыталі ў бацькі: «Што гэта за пані?».

- Гэта мая жонка, а вы пойдзеце адсюль са сваёю мамай жыць у іншы дом.

Хлопчыкі, якім было дзесяць і восем гадоў, заплакалі і прасілі бацьку, каб той не выкідаў іх.

Прыехала Крыся з вяселля і вельмі здзівілася, што муж не выйшаў на вакзал. Прыйшла дадому. Дзверы адчыніла каханка мужа.

- А! Гэта вы! Вацэк, твая жонка!

Вацэк выйшаў у калідор. Прывёў дзяцей і сказаў, даючы картачку: «Бяры дзяцей і свае рэчы». Паставіў два чамаданы: «Тут табе адрас новай кватэры. Я заплаціў за год. Дровы там ёсць. Расстанемся як джэнтльмены.»

Дзеці расплакаліся. Крыся са слязамі спытала:

- Чаму ты так нас крыўдзіш? Мы так добра жылі...

- Я перастаў кахаць цябе. Я пакахаў яе. Мы ўжо два гады знаёмыя. Яна спадзяваецца майго дзіцяці. І на развод ужо падаў. Ты не ўпірайся, асвабадзі мяне ад вас.

Крыся стаяла, як анямелая, пасля ўзяла чамадан і пайшла з дзецьмі да сваёй новай хаты. Домік маленькі - пакойчык і куханька. Жыві, як хочаш.

Дзеці не раз успамінаюць бацьку. Не могуць зразумець, чаму ён ад іх адрокся. Крысі таксама шкада мінулага. Каб быў ён нейкі набабнік, то можна было б зразумець. Вацэк быў добрым мужам.

**АЎРОРА**

## ДОБРА ВЕДАЦЬ

* Звараны рыс нельга паласкаць халоднай вадой /толькі цёплай/, паколькі паласканне ў халоднай вадзе пазбаўляе у 50-60 % вітаміну B2.

* Кампот будзе цудоўна смачны, калі дадамо да яго апельсінную скурку і паўшклянкі віна.

* З лімона можна выціснуць максімальную колькасць соку, калі перад гэтым пакласці яго на 5-6 мінут у цёплую ваду. Варта дадаць, што пры гэтым лімон будзе мець яшчэ больш інтэнсіўны арамат.

* Крыху завяўшую зялёную салату дастаткова палажыць на некалькі мінут у цёплую ваду, якая верне ёй свежасць.

* Пры дапамозе падагрэтага воцату /дадаць крыху солі/ можна ліквідаваць жоўтыя плямы з эмаліраванай паверхні ванны ці ракавіны.

* Нікеліраваныя краны добра было б працерці час ад часу анучкай, намочанай у падагрэтым воцаце. Пасля гэтага трэба іх спаласнуць халоднай вадой, выцерці, адпаліраваць сухой фланелькай.

* Каб вярнуць белізну кухонным фіранкам, варта намачыць іх нанач у халоднай вадзе з соллю.

Выбрала
**А. ПРАЛЕСКА**

## МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас: Bank Spółdzielczy w Hajnówce, nr konta 905217-1922-2710, а ў замежнай валюце: Narodowy Bank Polski, I Oddział w Białymstoku, nr rachunku walutowego 5021-24325-152-6787.

Жыхары Беларусі грашовыя ахвяраванні могуць уплачваць на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | | |
|---|---|---|
| 4013. | Вучні Пачатковай школы ў Курашаве | 12.000 зл. |
| 4014. | Васіль Петручук /Беласток/ | 300.000 зл. |
| 4015. | Пачатковая школа ў Пасынках | 134.800 зл. |
| 4016. | Ахвяраванні сабраныя ў скарбонку ў Крынычцы | 818.000 зл. |
| 4017. | Гмінная ўправа ў Гарадку | 20.000.000 зл. |
| 4018. | Сцяпан Копа /Беласток/ | 100.000 зл. |
| 4019. | З продажу «цаглінак» на дыскатэках у Беластоку | 81.000 зл. |
| 4020. | Канстанцін Лукашэвіч /Беласток/ | 50.000 зл. |
| 4021. | Дзмітры Ярашэўскі /Варшава/ | 170.000 зл. |
| 4022. | Васіль Сакоўскі /Гайнаўка/ | 10.000 зл. |
| 4023. | Ян Сухадола /Гайнаўка/ | 100.000 зл. |
| 4024. | Сяргей Германюк /Доўгі Брод/ | 60.000 зл. |
| 4025. | Юрка Балтрамюк /Гайнаўка/ | 100.000 зл. |
| 4026. | Мікалай Суліма /Гайнаўка/ | 60.000 зл. |
| 4027. | Васіль Сакоўскі /Гайнаўка/ | 50.000 зл. |
| 4028. | Валянціна Міцэвіч /Дашы/ | 50.000 зл. |
| 4029. | Калектыў «Цаглінкі» з Ляўкова | 2.000.000 зл. |
| 4030. | Янка Гавеньчык з Аўстраліі | 100.000 зл. |
| 4031. | Экскурсія з Кельцаў | 50.000 зл. |
| 4032. | Ахвяраванні ўдзельнікаў Купалля ў Белавежы 11.07.1992 г. | 2.645.800 зл. |
| 4033. | Віктар Бура /Гайнаўка/ | 20.000 зл. |

**Дзякуем.**

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej w Hajnówce, ul 3 Maja 42, tel. 30-16.




## ПАПРЫКА /ЧЫРВОНЫ ПЕРАЦ/

**Папрыка, фаршыраваная рысам**

На 12 струкоў папрыкі трэба ўзяць 15 дэкаў рысу, 3 вараныя яйкі, 1 сырое яйка, 4 лыжкі пасечанай зеляніны пятрушкі, 10 дэкаў алею, соль, перац, 2 лыжкі сцертай сухой булкі, 2 лыжкі таматнай пасты.

Вараныя яйкі абабраць і пасячы. Рыс прабраць, памыць, зварыць у вялікай колькасці вады. Адцадзіць, калі стане мяккі. Перамяшаць з сырым яйкам, зялёнай пятрушкай, пасечанымі варанымі яйкамі, дадаць па смаку солі і перцу.

Памыць папрыку, выняць з яе насенне, спаласнуць. Напоўніць струкі падрыхтаваным фаршам, палажыць іх у нізкую, шырокую каструльку, даліць алею. Тушыць пад накрыўкай, даліваючы час ад часу гарачай вады. Калі папрыка змякне, дадаць у соус таматную пасту і сцертую сухую булку, яшчэ хвілінку тушыць, дадаць солі і перцу, можна дадаць таксама крыху цукру.

**Папрыка, фаршыраваная гароднінай**

На 12 струкоў папрыкі трэба ўзяць 1 кг. мешанай гародніны /морква, пятрушка, поры і цвебуля/, 3 лыжкі таматнай пасты, 10 дэкаў алею, соль, папрыку ў парашку, 5 лыжак сцертага жоўтага сыру.

Гародніну дробна нарэзаць. Тушыць з алеем, перамяшаць з таматняй пастай і сцертым жоўтым сырам. Дадаць солі і папрыкі ў парашку.

Струкі папрыкі памыць, выняць з іх насенне, спаласнуць. Напоўніць фаршам з гародніны, пасля палажыць шчыльна струк ля струка ў каструльку, даліць алею і стушыць.

Падаваць з варанай ці печанай бульбай.

**З мясным фаршам**

Можна таксама тушыць папрыку з мясным фаршам. Фарш робяць ідэнтычна як на меляныя катлеты з мяса, і ім напаўняюць струкі папрыкі. Усё астатняе - як у папярэдніх рэцэптах.

**ГАСПАДЫНЯ**

## АБ'ЯВА

Вытворча-паслугова-гандлёвая фірма «АНКАР» з Енджаёва /28-300 Jędrzejów, ul. Jasionka 62, tel. 624-25, woj. kieleckie/ прыме на працу на неабмежаваны тэрмін грамадзян СНД - гідраўлікаў, муляроў, цесляра, зборшчыка жалезабетонных канструкцый, абліцоўшчыка, агародніка - зарплата 1,5 млн. зл. у месяц плюс кватэра і харчаванне.

# ГУМАР

Кажа жонка да мужа:

- Кастусь, кажуць, цяпер пайшла мода насіць летнік без гузікаў.

- Ха, аказваецца, я ўжо пяты год хаджу модным, - адказаў жонцы муж.

* * *

- Якія жанчыны табе падабаюцца: балбатлівыя ці наадварот?

- А ці бывае наадварот?

* * *

Два старыя кавалеры ўспамінаюць сваё юнацтва і век буйны.

- Жанчыны мяне на руках насілі! - хваліўся старэйшы.

- Цяпер вядома, чаму ты такі паношаны, - адказаў малодшы.

* * *

Дзве бабулі сядзяць на парозе і гавораць:

- Наш войт вярнуўся з ваяводства, дзе яму, кажуць, якуюсьці нагану далі.

- Зусім непатрэбна далі. Усё роўна прап'е.

* * *

Муж кажа жонцы:

- Я купіў білеты ў тэатр.

- Ой як добра! Я пачынаю збірацца.

- Сам раз паспеем: білеты на заўтра.

* * *

У маладой дзяўчыны спыталі:

- Чаму клічаш свайго сабаку Нягоднікам?

- Дзеля смеху. Калі так гукаю яго, дык многія хлопцы азіраюцца.

* * *

- Як ты цудоўна апранута! Муж змяніў месца працы? - пытаюць маладзіцу.

- Не, я змяніла мужа.

* * *

Сустрэліся паляўнічыя.

- Слухай! А дзе твая стрэльба?

- Навошта яна мне? Я ўсё роўна страляць не ўмею.

- Чаго ж тады ідзеш на паляванне?

- Ці ж усе вяртаюцца адтуль са здабычаю?

Падборку зрабіў
**ЯСЕНЬ**

Мал. Ігара Варашкевіча.

## Пародыі

**ЖОЎТАЕ САЛА**

*На сценах патрэсканых файныя бабы*
*Так грудзі тапыраць і ставяць зады...*
.....................................
*А будуць жа грошы - ты будзеш харошы,*
*Жанчыны за грошы ў пасцелі з'ядуць.*
.....................................
*Начамі бадзяешся ты па вакзалах -*
*Бяздомных жанчын для разрадкі бярэш.*

**Віктар Шніп**
*з верша * * * Ядуць*
*рабацягі зажаўцелае сала*

Учора наеўшыся жоўтага сала,
Адчуў нечакана я творчы застой.
Нячыстаю сілай пагнаў да вакзала
Мяне неспадзеўкі мой клёвы настрой.
Нібыта жарэбчык, лячу апантана,
Бяздомных жанчын для разрадкі бяру.
«Путана, путана, путана, путана!..» -
Я шлягер саўковы не раз паўтару.
Жыцця не даюць мне жаночыя твары
І грудзі, і сцёгны, і нават зады...
Калі прапаную свае ганарары -
Жанчыны грызуць мяне ў ложку тады.

**МІХАСЬ РАПІРА**

# МА КАТ РАЗМЫ

**ЕЎРАПЕЕЦ**

Зайшоў у краму ўжываных рэчаў
Бы ў казку чароўную ўтопаў.
Купіў штаны /з Ганса/,
з Джэймса пару фрэнчаў,
Паўтузіна кашуль /з Морыса/.
Еўропа!

**НЕНАСЫТНЫ**

Падказваў галаве жывот:
- Шырэй рот! Шырэй рот!

**СІДАР МАКАЦЁР**

# ХАЙ П'ЮЦЬ!

Адзін раз у пятнаццаць гадоў прылятае аўтарытэтная міжнародная камісія пацікавіцца, як у краіне ідуць справы з цвярозасцю.

Прыляцелі ў 1930 годзе, сумна пахіталі галовамі і кажуць Сталіну:

- Іосіф Вісарыёнавіч, у вашай краіне п'юць!

- Няхай сабе, - гаворыць Сталін. - Рэвалюцыю выйгралі, ёсць за што і выпіць.

І вось наступны візіт у 1945 годзе.

- Іосіф Вісарыёнавіч, прабачце, але і цяпер п'юць.

- Дык жа вайну выйгралі, - задаволена пасміхаецца правадыр. - Грэх не выпіць.

Камісія з'яўляецца ў 1960 годзе:

- Мікіта Сяргеевіч, і ў вас п'юць...

- Праз дваццаць гадоў у нас камунізм будзе, - абяцае Хрушчоў, - тады «сухі закон» прыжывецца сам па сабе.

Прылятае камісія ў 1975 годзе, эксперты за галовы ўхапіліся:

- Леанід Ільіч, у вас п'юць, як ніколі раней!

- Хэ, хай п'юць, - кажа Брэжнеў. - Вось паглядзім, чым яны будуць закусваць!

# КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 1/ Іван Дамінікавіч Луцэвіч, 4/ становішча месяца ў апошняй фазе, калі яго серп паступова памяншаецца, 8/ мужчынскі голас, 10/ вінтавыя канаўкі, разьба, якія робяцца звонку або ўнутры прадмета, 11/ сельскагаспадарчая самаходная машына, 12/ шпень, на які насаджана кола, 13/ будан, 14/ след, шрам, абазначэнне, 17/ фарбавальнік цёмна-сіняга колеру, 18/ ахвотнік, любіцель, 20/ свячка тапара, 23/ дванаццаць сузор'яў, 27/ $H_2O$, 28/ грошы, каштоўныя рэчы, каштоўнасці, 29/ прыправа для ежы, 32/ званне пераможцы, 33/ шнур, 34/ насякомае з джалам, 35/ абярэмак, 36/ парушэнне вернасці.

**Уніз:** 1/ роў для сцёку вады, 2/ ад дажджу і сонца, 3/ розга, 5/ орган кіравання войскам, 6/ жыхарка прыбалтыйскай дзяржавы, 7/ мастацкі стыль, 8/ пярэдняя частка ніжняй сківіцы, 9/ яда, 15/ сланец або від чарапіцы, 16/ група злачынцаў, 17/ невядомая велічыня, 19/ анкалагічная хвароба, 21/ у старажытнай Русі - вялікая медная пасуда для віна, піва, мёду, 22/ апытальны ліст, 23/ водбліск пажару, 24/ жонка аднаго брата ў адносінах да жонкі другога брата, 25/ месца, куды звозяць смецце, 26/ судовы працэс, 30/ водгалас, водгук, 31/ ледзяны дождж.

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на разетку з 29 н-ра. **Управа:** Пагоня, Полацк, праўда, поспех, прымак, пакута, памяць, павіян. **Улева:** павець, погляд, паляна, плацце, пасуда, прыпеў, поклад, помста.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: Лукаш Пацэвіч і Аляксандр Дабчынскі з Беластока.

Ніва

"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel.210-33.
Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдакцыйны калектыў:

Мікола Ваўранюк, Віталь Луба (в.а. галоўнага рэдактара), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Ялянта Панфілюк (карэктар), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1993 r. upływa 20 listopada 1992 r.

2. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 32 500 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 3500 zł., a kwartalnie - 45.500 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.